

Пра адзін данос →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Падляшша ў аб'ектыве →8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 07 (3066) Год LX | Беласток, 15 лютага 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Родам з Беласточчыны**

# Трагічны лёс святара з Новай Волі

**Сёлета спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння беларускага святара МІКАЛАЯ НЯДЗВЕДСКАГА (1890-1939), якога закатавалі актывісты камуністычнай ячэйкі на Наваградчыне.**



фота www.radzima.org



■ Магіла Мікалая Нядзведскага на Наваградчыне

Мікалай Нядзведскі нарадзіўся 8 мая 1890 года ў вёсцы Новая Воля Беластоцкага павета ў сям'і беларускага святара Іаана Нядзведскага (1856-1925). Сям'я святара была даволі вялікая — аж дзесяць дзяцей. Але толькі адзін Мікалай звязаў свой лёс са служэннем Богу. Ён скончыў духоўную семінарыю і быў рукапаложаны ў святары.

Айцец Мікалай пасля семінарыі ажаніўся са сваёй землячкай Верай. Дзяўчына скончыла пецярбургскі Смольны інстытут, працавала рэгентам, мела добрыя музычныя здольнасці і прыгожы голас. А ў інстытуце яна атрымала яшчэ выдатныя медыцынскія веды. Моцна разбіралася ў лекавых травах, заўсёды дапамагала землякам, лячыла іх, давала парады. Людзі шчыра да яе адносіліся, любілі яе, паважалі, звярталіся па дапамогу.

Вера і Мікалай Нядзведскія ў Новай Волі адкрылі прыватную школу. Там яны бясплатна вучылі мясцовых хлопчыкаў і дзяўчынак. А самых бедных вясковых дзяцей Нядзведскія кармілі і дапамагалі адзеннем. Дзяцей у іх не было, таму на выхаванне яны ўзялі дзяўчынку-сірату Ларыту, якую гадавалі і шчыра любілі.

У 1921 годзе святар Мікалай Нядзведскі з сям'ёй пакінуў Новую Волю і пераехаў на Наваградчыну ў вёску Ваўкавічы. На той час вёска была даволі вялікая, у ёй заставалася шмат моладзі.

На ўзвышанасці стаяла царква. Драўляная, вялікая, пабудаваная была ў гонар перамогі рускіх у вайне 1812 года над Напалеонам. Вось там і служыў айцец Мікалай.

Каля царквы былі могілкі. Іх айцец Мікалай часта асвячаў, маліўся, Людзей у царкву прыходзіла шмат. Акрамя ваўкавіцкіх вернікаў сюды наведваліся праваслаўныя з суседніх вёсак Наваградчыны. А на Пакровы Прасвятой Багародзіцы адбываўся фэст, наладжваліся кірмашы, збіраліся людзі, сустракаліся, вялі гутаркі пра жыццё-быццё, якое ішло сваёй калейкай.

У канцы 1930-х гадоў людзей у Ваўкавічах нібы падмянілі. Ды яны іншымі сталі па ўсёй Заходняй Беларусі. Многія трымалі ў хатах зброю, нават святары, каб у любы момант абараніць сябе ад бандытаў ці рабаўнікоў. Але ў айца Мікалая Нядзведскага зброі не было ніколі. Яго зброяй былі малітвы і спадзяванні на волю Божую. Ён памятаў словы Святога Пісання пра тое, што без волі гэтай і волас з галавы не ўпадзе і што кожнаму Гасподзь прызначыў свой шлях да ратавання.

У верасні 1939 года, калі вёска Ваўкавічы трапіла ў паласу безуладдзя, бо польская ўлада знікла, а савецкая не ўсталявалася, пад раніцу да хаты святара прыйшлі некалькі чалавек. Гэта былі жыхары вёскі Ваўкавічы і суседніх вёсак, чалавек 5-7. Яны з'яўляліся мясцовымі актывістамі, членамі падпольнай партыйнай ячэйкі. Хата святара знаходзілася насупраць царквы.

Бандыты пастукалі ў дзверы, а потым у вокны. Бацюшка прачнуўся, адчыніў дзверы і пусціў „гасцей" у хату. Рабаўнікі адразу пачалі шукаць залаты крыж, срэбнае царкоўнае начынне, іншыя каштоўнасці, але нічога не знайшлі, бо ўсяго гэтага ў Мікалая Нядзведскага не было. Па іх паводзінах айцец Мікалай адразу здагадаўся, што нязваныя „госці" на гэтым не спыняцца, і папрасіў толькі, каб яны не чапалі Веру і Лаліту. Але бандыты пачалі іх біць, а потым забралі святара і вывелі на вуліцу.

Бацюшку павялі праз вёску. І не проста вялі, а па дарозе збівалі, вырывалі бараду і вусы, білі жалезным прутам па баках, ламаючы рэбры. Калі праходзілі праз вёску Амневічы, айца Мікалая прымусілі паўзці на карачках, а адзін з катаў сеў на яго верхам. Мясцовыя жыхары ўсё бачылі, назіралі з-за фіранак, але абараніць свайго бацюшку ніхто не выйшаў, бо баяліся за сябе і за сваю сям'ю. Ніхто не абараніў чалавека, які хрысціў іх дзяцей, вянчаў, хаваў памерлых, які быў блізкім чалавекам у кожным доме, у кожнай сям'і. Толькі некаторыя падумалі, чаму ён не супраціўляецца? Святар быў фізічна моцны, здаровы, ён мог бы іх усіх параскідаць у розныя бакі. Але святар гэтага не зрабіў. Ён толькі пытаўся: „Браткі, за што ж вы мяне?". Шчыра маліўся і казаў: „Даруй ім, Госпадзі, бо не ведаюць, што яны робяць".

Потым бандыты пайшлі на хутар, дзе на два дні скалечанага святара закрылі ў склепе. А на трэці дзень яго павялі далей у лес каля вёскі Сянежыцы. Спачатку прымусілі яго капаць сабе магілу. Потым адрэзалі вушы, выкалалі вочы, вырвалі язык... Абвязалі вяроўкай ногі, перакінулі цела праз сук ды апусцілі ў магілу...

Некалькі дзён матушка Вера шукала айца Мікалая. Яна ведала ў твар забойцаў, ведала іх прозвішчы, але маўчала. Падчас вайны да Веры Нядзведскай прыходзілі хлопцы з атрада Барыса Рагулі і прасілі, каб яна сказала, хто закатаваў айца Мікалая. Але жанчына, уздыхнуўшы казала:

„Я яго ўжо не падыму, таму, хто забіраў яго з хаты і катаваў, я нікому нічога не скажу".

Месца, дзе закатавалі святара Мікалая Нядзведскага, на Наваградчыне называюць людзі Наваградскай Галгофай. А лёс тых, хто гэтае злачынства здзейсніў, быў трагічным. Адзін з бандытаў патануў у возеры, двах павесіліся, чацвёртага п'янага задушыў возам конь, іншыя — звар'яцелі.

Вера Нядзведская ў апошнія гады свайго жыцця жыла пры Свята-Духавым манастыры ў Вільні. Пасля мужа яна заўсёды апраналася толькі ў чорную вопратку. Дачка Лаліта ў свой час скончыла гімназію і выйшла замуж за лётчыка. У 1965 годзе яна з сям'ёй пераехала жыць у Вільню. Далейшы лёс яе невядомы.

8 кастрычніка 2009 года ў вёсцы Ваўкавічы на Наваградчыне архіепіскапам навагрудскім і лідскім Гурыем была асвечана царква. Штогод, 9 кастрычніка, ад царквы ідзе хрэсны ход на Наваградскую Галгофу, дзе закатавалі айца Мікалая.

Рэжысёр Святлана Дзёмчанка пра трагічны лёс святара з Новай Волі і з Ваўкавічаў Мікалая Нядзведскага зняла дакументальны фільм, які так і называецца „Наваградская Галгофа".

**Сяргей ЧЫГРЫН**



фота www.nn.by

■ Хрэсны ход на Наваградскую Галгофу, дзе закатавалі айца Мікалая



9 770546 196000



# І зноў пра мову

І справа нават не ў тым, што начальнік беларускай дзяржавы чарговы раз на „веліком і могучем” распавёў пра недасканаласць роднай мовы. Па-першае, калі разглядаць усю палітру яго кароткага выступу па моўным пытанні, то там больш station... 

На АМАП і іншыя сілавыя структуры разліку няма ўвогуле. Яны за вялікія грошы навучаныя жорстка разганяць мірныя дэманстрацыі. На большае не здольныя. Тут, як кажуць, хто на што вучыўся. А нават каб і былі здольныя, то не захацелі б сваю галаву падстаўляць нават за вялікія грошы. Патрыятызму то бракуе. Скуль яму ўзяцца, таму патрыятызму, калі роднай мовы нават не ведаюць. Таму ўвогуле незразумела на чыім баку гэтыя добра ўзброеныя і някепска адкормленыя людзі будуць змагацца ў разе чаго. Якому пану служыць захочуць? Я сваімі вушамі чуў, калі мяне з сябрамі апошні раз у міліцыю забіралі, як нашы беларускія міліцыянты разважалі паміж сабой на тэму расійскай акупацыі нашай Радзімы. Моцна гэтым фактам яны не перамаліся. Наадварот. На поўным сур’ёзе гаварылі, што ім горш ад гэтага не будзе, бо ў Расіі ў паліцэйскіх заробкі большыя.

На апазіцыю разлічваць таксама не варта. Яна ж такая разнародная, і далёка не ўся беларускамоўная. Ну, а каторыя сапраўды патрыёты, дык ужо за свой патрыятызм так пацярпелі, што наўрад ці будуць бараніць гэтую ўладу, нават калі тая загамоніць на мове родненькай усімі яе каларытамі і адценнямі. Вось і застаецца крыху спатрыятызаваць рахманы і талерантны народ. Але каб так не асабліва моцна. Тут важна палку не перагнуць, бо моцна спатрыятызаваны народ захоча мець моцна патрыятычнае кіраўніцтва.

Таму і ўзнікаюць сцвярджэнні, што мова наша прыгожая, вялікая, і нават патрэбная. Толькі вось бяда ёсць адна з ёй. Аказваецца філасофію і фізіку на ёй выкладаць складана.

Па-польску гэтыя дысцыпліны развіваць мажліва, і па-чэшску таксама. Зрэшты, і па-славацку філасофія і фізіка вывучаюцца. І па-літоўску, і па-латышску і па-эстонску... І па-казахску, і па-ўзбецку, і па-ўкраінску і на ўсіх астатніх мовах свету. Толькі наша родненькая для гэтых навук аказалася непрыдатнай, калі верыць самаму галоўнаму ў краіне мірных людзей. Як у тым анекдоце. Гаварыць, то гаварыце як хочаце. Толькі маліцца трэба па-руску, бо Бог беларускай мовы не разумее. Яшчэ не вывучыў. Школаў беларускамоўных то няма. Дзе ж яму яе вывучаць.

Вось толькі з маіх асабістых назіранняў усё не так атрымліваецца. І пра фізіку пабеларуску мы часамі гаворым. Прыкладам, са Станіславам Шушкевічам. Ён пра фізіку можа распавесці і па-беларуску, і па-расейску, і па-англійску і па-польску. Моўных праблем для яго гэты прадмет не стварае. А вось пра філасофію акурат у беларускамоўных кампаніях разважаюць часцей. І таксама мова перашкодай не стварае. Хоць трэба ўсё ж адзначыць, што некаторыя аспекты рускамоўнай філасофіі нам, беларусам, зразумець цяжка. Прыкладам, калі рускамоўныя суддзі разам з рускамоўнымі сведкамі і гэтак жа моўнымі міліцыянтамі штрафуюць аднарукага чалавека за тое, што той кляцаў у далоні. Большую філасофію можна прыдумаць толькі калі асуджаюць нямога за брудную лаянку матам на масавым мерапрыемстве. Нейкая звышглыбокая філасофія ёсць у гэтай мове, калі яна дазваляе такія дзеянні. Тут, праўда, мы, беларускамоўныя, ажно да такой глыбіннай філасофіі сапраўды не дацягваем.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Кабарэ гэта жыццё?



Ой робіцца ўсяго ў польскай палітыцы! Павел Кукіз, былы лідар рок-гурта «Персі», чалавек эмацыйна гіперактыўны, што не значыць што несумленны, спявак, акцёр-аматар, а цяпер радны сейміка Ніжняй Сілезіі, абвясціў аб сваім удзеле ў кастынгу ў прэзідэнты. Як чалавек, які абцёр свае бакі ў шоўбізнесе, ведае ён правілы барацьбы за галоўную ролю ў Рэчы Паспалітай мабыць лепш ад кагосьці іншага. І хто ведае, ці не пяройдзе ён у другі тур прэзідэнцкіх выбараў, і, мабыць, нават у выніку перамажа. Хоча ён разварушыць, дарэчы, вельмі сэнсоўны праект вызваліць шаноўную прэзідэнцкую функцыю ад фаварытызму, усцерагчы яе ад партыйных сварак. А паколькі старанне за пасаду прэзідэнта мае ў Польшчы мала агульнага з сур’ёзнай і адказнай палітыкай, і яго кандыдатура мае нейкае дачыненне да кабарэтнага выпендрошу. Кабарэ ў польскай рэальнасці на самой справе добра сябе адрэкамендавала. Пры „камуне” высокія стандарты добрага густу, літаратурнай вытанчанасці і разумнага сарказму ўстанавілі назаўжды кабарэ: „Старэйшых раноў”, „Дудэк”, „Салон незалежных” або „Пад эгідай”. Пасля яе падзення ўзровень грамадзянскага жарту рашуча паляцеў уніз, праехаўшыся жыватом аб інтэлектуальную пасродкавасць. Але такая прапанова чагосьці, на што ёсць попыт. Мільёны тэлегледачоў, смактаўшы піва і жаваўшы чыпсы, качаецца ад смеху, аглядаючы штодзень адзін з самых нудных, калі б не сказаць працяцкіх серыялаў, які паўтараецца зноў і зноў ва ўсіх каналах грамадскага тэлебачання. Ён носіць назву „Жыццё гэта кабарэ”. Справа ў тым, што гледачы гэта таксама выбаршчыкі. Попыт на кабарэ ў Польшчы ненасытны. Трошачкі, і за попытам пойдзе прапанова. Тэлебачанне (перш за ўсё грамадскае тэлебачанне) ужо рыхтуецца да новых праграм кабарэ. Спачатку, да справаздач з прэзідэнцкіх выбараў. Пасля — у парламент. Ой, будзе смеху! Жыццё — не кабарэ. Кабарэ гэта жыццё!

Шмат таксама адбываецца ў Беларусі. Проста кабарэтным досціпам нядаўна выказаўся Аляксандр Лукашэнка. А менавіта, ён, нарэшце, дазволіў на беларусізацыю дзяржаўнай адміністрацыі. З гэтага часу ўсе дзяржаўныя дакументы маюць з’яўляцца на беларускай мове. Акрамя таго, у школах некаторыя прадметы павінны выкладацца на дзяржаўнай мове, хоць моцна занядбанай. „Гэта падрыхтоўка пад незалежнае будаўніцтва” — сказаў у эфіры тэлебачання д-р Марыюш Машкевіч, былы амбасадар Польшчы ў Беларусі. На яго думку, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь спрабуе выкарыстоўваць канфлікт ва Украіне, каб наблізіцца да Еўропы. „На жаль, — як трапна адзначыў, — такія дзеянні паставілі пад сценку беларускую апазіцыю, якая, нападаючы на Лукашэнку, воляй-нявoляй, працуе на карысць Уладзіміра Пуціна”. Сапраўды, сітуацыя ў Беларусі вельмі моцна з-за гэтага пабльталася. Да нядаўняга часу, для таго, каб умацаваць сваю ўладу, Лукашэнка знішчаў і зневажаў беларушчыну ў кожнай яе патрыятычнай маніфестацыі: насміхаючыся з нацыянальнай мовы, зневажаючы родную культуру, высмейваючы гістарычную спадчыну беларусаў. Што, нарэшце, амаль не прывяло да самазнішчэння ідэнтычнасці. Сёння, калі аказалася, як было блізка да поўнай васалізацыі Беларусі ад Расіі, да поўнай русіфікацыі і, такім чынам, да падзення беларускай суб’ектыўнасці, Лукашэнку раптам адкрыліся вочы. Расія прагная толькі на беларускія збожжасховішчы і гарматняе мяса. Лукашэнка зразумеў. Пытанне ў тым, ці таксама зразумелі гэта беларусы. Ці хочуць быць яшчэ самастойна вызначальнай нацыяй? Даследаванні, праведзеныя беларускім Незалежным навукова-даследчым цэнтрам з сядзібай у Літве НІСЭПД паказалі прагрэс у самаідэнтыфікацыі грамадзян. Большасці з іх, аднак, усё роўна, ці будуць яны жыць у Расіі, ці ў Беларусі. Гэтая драматычная і адзіная прычына для таго, каб пераканацца, ці патрыятычная, беларуская апазіцыя і Лукашэнка паставяць перад сабой агульную мэту — абарону беларушчыны. Расійскі імперыялізм — значна большая пагроза для беларускай суб’ектыўнасці, чым аўтакратызм Лукашэнкі. Як гэта ні парадаксальна, толькі ён можа ў гэты час падтрымаць дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Голас беларускай апазіцыі, крытычнай да лукашэнкаўскай улады, таму будзе сам па сабе слабець, што будзе спрыяць далейшаму ўмацаванню дэспатызму Лукашэнкі. Уся гэтая абсурдная сітуацыя мяжуе з кабарэтным досціпам. Але які ж драматычны гэта жарт. Сапраўды, кабарэ гэта жыццё!

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Роздумы над парогам

Нядаўна мінула дзясятая гадавіна прыняцця Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях ды рэгіянальнай мове. Гэта адзін з самых маладых у Еўропе законаў, якія рэгулююць правы меншасцей. Ён увёў раней невядомыя польскаму заканадаўству правілы, якія тычацца, між іншым, падвойных назваў населеных пунктаў і двухмоўных дарожных указальнікаў. Увёў таксама дапаможную мову ва ўстановах. Урэгуляваў правы меншасцей культурнага характару. Нарэшце стварыў сумесную камісію з прадстаўнікоў урада і нацыянальных меншасцей. Яго першы артыкул гучыць: «Закон рэгулюе пытанні, звязаныя з падтрыманьем і развіццём культурнай самабытнасці нацыянальных і этнічных меншасцей, захаванне і развіццё рэгіянальнай мовы, грамадзянскай і сацыяльнай інтэграцыі асоб, якія належаць да нацыянальных і этнічных меншасцей, а таксама пра тое, як рэалізаваць прынцып роўнага абыходжання з асобамі незалежна ад іх этнічнага паходжання, а таксама вызначае задачы і паўнамоцтвы органаў дзяржаўнай улады і органаў мясцовага самакіравання ў дачыненні да гэтых пытанняў».

Выпадкова я наткнуўся на інтэрв’ю, якое да гадавіны закона даў загадчык аддзела па правах чалавека Люблінскага універсітэта Марыі Складоўскай-Кюры, эксперт па правах меншасцей праф. Гжэгаж Януш. Генеральна прыняцце польскім парламентам дзесяць гадоў таму гэтага закона ацаніў ён такім чынам: «Я думаю, што ў меркаванні меншасцей гэта важны крок наперад. Таму лічу, што адпавядае ён пастаўленым задачам. У групе краін, у якіх пражываюць меншасці, такое заканадаўства пазітыўна адрознівае нас, але, вядома, у рапартах розных арганізацый выяўляюцца некаторыя складанасці з рэалізацыяй правоў, замацаваных у законе».

Найбольш заўважнай праявай дзеяння закона з’яўляюцца двухмоўныя дарожныя знакі. Аднак беларускія гміны на Падляшшы неахвотна выкарыстоўваць гэтую магчымасць (толькі Арлянская гміна ўвяла іх). Наколькі я ўважліва сачу, большасць кіраўнікоў гэтых гмін засланяецца сцвярджэннямі, якія зводзяцца да сказа: «У ходзе кансультацый аказваецца, што нашы жыхары не хочуць гэтых табліц». Тым не менш, самі самаўрадаўцы нейкай спецыяльнай працы (рэкламнай кампаніі) дзеля пераканання насельніцтва да ўвядзення двухмоўных указальнікаў не робяць. Тым часам у Сейм мае паступіць прапанова аб унясенні паправак у закон аб меншасцях (я ўжо пісаў аб гэтым раней). У адпаведнасці з ёю, падобна як у Чэшскай Рэспубліцы, неабходны для ўсталявання табліц парог будзе зніжаны з 20 да 10 працэнтаў меншасці ад агульнага ліку насельніцтва ў гміне. Над праектам паправак у закон разважала сумесная камісія ўрада і нацыянальных меншасцей па дамоўленасці з парламенцкай камісіяй па нацыянальных меншасцях. У канцы траўня мінулага года прапанову законнага зніжэння парога, распрацаваную спецыяльна прызначанай для гэтай мэты рабочай групай, сумесная камісія адобрыла.

Прафесар Януш кажа, аднак: «Ці такая змена будзе прынята, залежыць ад палітычнай волі Сейма. Апынулася там таксама палажэнне аб тым, што рады горада ці гміны не могуць адмовіцца ад правядзення кансультацый. Справа ў тым, каб бягучы запіс перастаў быць мёртвым. Праект навелізацыі яшчэ не прадстаўлены на разгляд Сейма. Менавіта таму цяжка ў даны момант прадказаць, у якім кірунку пойдуць заканадаўчыя працы, і нават палітычныя дыскусіі па гэтым пытанні.

Прыгадаем, што паводле апошняга перапісу насельніцтва ад 2011 года, у Польшчы ў дзевяці гмінах беларуская меншасць складае больш за 20 працэнтаў. Да іх адносяцца: Бельск-Падляшскі (вясковая гміна) — 36,2%, Орля — 56%, Гайнаўка (гміна) — 22,9%, Чыжы — 76,5%, Дубічы-Царкоўныя — 63,7%, Гайнаўка (вясковая гміна) — 51,7%, Кляшчэлі — 35,6%, Нарва — 37%, Нараўка — 39%. Я думаю, што дыскусія пра карысці ад увядзення двухмоўных назваў населеных пунктаў павінна на пачатак адбыцца неадкладна пасля восеньскіх выбараў з удзелам саміх кіраўнікоў дзевяці гмін (таксама з раднымі і солтысамі). Так, каб прадставіць аргументы «за» і падказаць форму магчымых сур’ёзных, а не выпадковых, дэбатаў на гэтую тэму з жыхарамі. Думаю, што гэта магло б быць адной з задач Мікалая Мантура, новага ўпаўнаважанага падляшскага ваяводы па справах меншасцей, разам са службовымі асобамі ад Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, якія апякуюць меншасці. Дарэчы, я ўжо ўяўляю дэбаты ў парламенце аб паніжэнні парога. Працаўнікі, магчыма, што таксама з парламенцкай большасці, маюць аргумент: а навошта тое, калі да гэтай пары самі меншасці неахвотна карыстаюцца гэтай магчымасцю.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

(з гісторыі паўстання 1863-1864 гг. на Беласточчыне)

# Фабрыкацыя аднаго даносу

**Падчас паўстання 1863-1864 гг. шырока практыкавалася такая форма паведамлення аб удзеле мясцовых жыхароў у паўстанні як данос. Даносчыкамі выступалі канкурэнты, даўжнікі, суседзі, сябры і сяброўкі, і нават родныя дзеці, у іх імкненні авалодаць бацькоўскім маёнткам. Стаўленне расійскіх улад да даносчыкаў прывяло да таго, што даносыператварыліся ў прыбытковы занятак. Здараліся выпадкі, калі даносы фабрыкаваліся нават царскімі службоўцамі і ператвараліся ў доказ злачынства ў адносінах да падазраваных ва ўдзеле ў паўстанні. Але часам такія фабрыкацыі выходзілі на чыстую ваду.**

6 верасня 1863 года ваенны начальнік горада Беластока з уездам накіраваў у Беластоцкую ваенна-следчую камісію ліст з просьбай разгледзець справу чатырох чалавек, арыштаваных у Гарадоцкай воласці Беластоцкага ўезда за ўдзел у паўстанні. Гэта былі ткачы з вёскі Юзэфова: Сымон і яго сын Віктар Грыкі, ляснічы з в. Юзэфова Мікалай Іванюк, а таксама Іван Тарасевіч з Гарадка.

Калі першыя два былі каталікамі па веравызнанні, то Іванюк і Тарасевіч — праваслаўнымі, прычым апошні з'яўляўся старастам царквы ў Гарадку і абвінавачваўся ў тым, што ён разам са святаром гарадоцкай царквы Юльянам Скальскім вазіў паўстанцам сала ў в. Явароўка, купленае ў селяніна в. Бялевічы Адама. Паколькі ў справе фігуравала імя праваслаўнага святара, на якога падаў цень удзелу ў паўстанні, і царкоўнага старасты, ваенны начальнік Беластока палкоўнік Мікалай Максімавіч Цёге фон Мантэйфель запатрабаваў тэрмінова высветліць усе абставіны справы.

У адказ уезны ісправнік маёр Волкаў, які арыштаваў Грыкаў, Іванюка і Тарасевіча паведаміў, што яны, як добраахвотна прымаўшыя ўдзел у паўстанні, былі абвінавачаны на падставе даносу сялян в. Юзэфова Леона Дамброўскага і Міхаіла Самойлава, а таксама вёскі Зарэчаны — Бенедыкта Дзярманскага, Івана Пятэльскага, Аляксея Халецкага, Якава Аўсейчыка і Аляксея Юрчэні, па неадукаванасці якіх справу падпісаў старшыня Аляксей Трафімчук.



Сяляне слухаюць царскі загад (**LE MONDE ILLUSTRE (1863)**)

Аднак самі арыштаваныя не ведалі, дзякуючы паказанням каго яны патрапілі за краты. На гэтай глебе ўзнікалі розныя падазрэнні. Так, 4 кастрычніка 1863 года да Мантэйфеля звярнуўся з прашэннем Марцін Тарасевіч, які абвінавачваў у арышце бацькі ды ўжо амаль месячным яго ўтрыманні ў беластоцкай турме дзядзьку Станіслава Тарасевіча, які хацеў «погубить отца моего и присовокупить хозяйство отца моего под свое владение». Насамрэч, гэтае меркаванне было памылковым і з'яўляецца яскравым прыкладам культывацыі сярод жыхароў краю пачуцця падазронасці і паклёпніцтва, чаму садзейнічала расійская адміністрацыя, якая кіравалася прынцыпам divide et impera (падзяляй і ўладар).

Акрамя асабістага прашэння Марціна Тарасевіча аб вызваленні яго бацькі, 14 жыхароў Гарадка звярнуліся з пасведчаннем, што Іван Тарасевіч не прымаў удзелу ў паўстанні. Гэта былі Рыгор Сарачынскі, Людвік Хшаноўскі, Ігнат Яроцкі, Казімір Кастэнцік, Іван Рашкевіч, Ілья Кандрусік, Іван Шчэдрык, Іван Налівайка, Васіль Бараноўскі, Юзаф Хшаноўскі, Андрэй Мялешка, Стэфан Кандрусік, Матфей Налівайка, Раман Хшаноўскі, па неадукаванасці якіх распісаўся тысяцкі Гарадка Рыгор Кандрасюк. У выніку царкоўны стараста Тарасевіч і разам з ім святар гарадоцкай царквы Скальскі былі прызнаныя памылкова абвінавачанымі ў супрацоўніцтве з паўстанцамі. 15 кастрычніка Іван Тарасевіч быў вызвалены з-пад арышту і ўзяты на даручальніцтва тысяцкім Рыгорам Кандрасюком і сынамі Станіславам і Марцінам Тарасевічамі. Гродзенскі жандарскі штабс-афіцэр маёр Ляскоў паведаміў Беластоцкай ваенна-следчай камісіі, што абвінавачванне Тарасевіча «оказалось совершенно ложным».

Пасля зняцця абвінавачванняў з Івана Тарасевіча ў дастаўцы ім ежы паўстанцам узнікла пытанне аб справядлівасці абвінавачванняў ткачоў Грыкаў і ляснічага Іванюка, таму Беластоцкая ваенна-следчая камісія распачала іх справу наноў, апытаўшы ў першую чаргу 18 кастрычніка Івана Тарасевіча.

Іван Андрэеў Тарасевіч меў 50 гадоў, праваслаўны, неадукаваны, вольнаабавязаны селянін Гарадоцкай воласці Беластоцкага ўезда, стараста гарадоцкай праваслаўнай царквы. Ён сведчыў, што паўстанцы былі ў мястэчку Гарадок двойчы: першы раз пасля свята Уваскрасення Хрыстова ў колькасці 15 чалавек і другі на свята прарока Ільі 20 паўстанцаў збіралі прадукты. Тарасевіч адзначаў, што «из нашего местечка из православных жителей никто не пошел в шайку мятежников и чтобы мы могли чем-нибудь обороняться, то мы не допустили бы мятежников продовольство собирать, но что же мы могли делать без оружия. Мы только каждый раз давали знать о приходе мятежников в ближайшие части войск и первый раз войско не захватило их, а второй раз мятежники были разбиты в верстах 10-ти от местечка около околицы Воробев на другой день после праздника Ильи. С тех пор у нас стоит (...) рота и стало все спокойно».

2 студзеня 1864 года ў Беластоцкай ваенна-следчай камісіі былі апытаны Віктар і Сымон Грыкі.

Віктар Сімонаў Грыка меў 29 гадоў, каталік, халасты, неадукаваны, селянін в. Юзэфова Беластоцкага ўезда, дзе займаўся ткацтвам. У паказаннях адзначыў: 6 жніўня, перад святам Праабражэння Гасподняга праз Юзэфова прайшла група паўстанцаў, якія не спыняліся ў вёсцы, але запатрабавалі ад яе жыхароў не паведамляць пра іх з'яўленне расійскім уладам. Праз тры дні Віктар разам з бацькам Сымонам адправіліся да Юзэфа Цімаховіча, каб завезці яму на продаж палатно. Аднак там знаходзіліся паўстанцы, якія затрымалі Грыкаў да моманту свайго адыходу. Паказанні Віктара пацвердзіў яго 70-гадовы бацька Сымон Грыгораў Грыка, які меў чатырох сыноў і займаўся ткацтвам.

Наступным быў апытаны Мікалай Сцяпанаў Іванюк, 48 гадоў, праваслаўны, жанаты, бацька шасці дзяцей, неадукаваны, селянін в. Юзэфова, які служыў ляснічым у лесе маёнтка Пілатоўшчына. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён вадзіў сяброўства з паўстанцамі і праводзіў іх у лес. Аднак сам Іванюк паказаў: «При проходе чрез нашу деревню шайки мятежников, они вызывали каждого жителя, а в том числе и меня, и угрожали мне повешением за то, что будто бы я русский шпион, — а потом нарезали палок и хотели меня бить, но я упросил их оставить меня. — На другой день при осмотре мною леса, я вновь встретился с тою же шайкою, и она продержала меня при себе часов около пяти, а после отпустила домой».

Атрыманыя паказанні пакідалі больш пытанняў, чым адказаў. Таму 16 студзеня 1864 года ў Беластоцкай ваенна-следчай камісіі было праведзена апытанне сялян, на падставе даносу якіх маёр Волкаў арыштаваў Тарасевіча, Віктара і Сымона Грыкаў, а таксама Іванюка.

Першым сярод іх быў апытаны Міхаіл Раманаў Самойлік, 40 гадоў, праваслаўны, жанаты, селянін в. Юзэфова, былы дзясяцкі. Ён паказаў, што калі паўстанцы праходзілі праз вёску, то размаўлялі з Сымонам Грыкам і Мікалаем Іванюком як са знаёмымі і патрабавалі данасіць прозвішчы тых, хто паведаміць уладам пра іх. Праз тры дні сам Самойлік хадзіў да селяніна Цімахоўскага, куды па патрабаванні паўстанцаў прынёс вішні і сустрэў там шляхціча Жалязоўскага і сям'ю Грыкаў, якія «пировали с мятежниками». Аднак пры гэтым Самойлік забыўся ўзгадаць, што сам застаўся пры гэтым застоллі і частаваўся гарэлкай. На гэта звярнуў увагу шляхціч Жалязоўскі пры вочнай стаўцы.

Сярод тых, ад імя каго быў падпісаны данос, быў і селянін в. Юзэфова Лявон Лукін Дамброўскі, 40 гадоў, каталік, жанаты, неадукаваны. Пацвердзіўшы паказанні Самойліка, ён адзначыў, што нічога пра супрацоўніцтва Мікалая Іванюка з паўстанцамі не ведае і ніколі не чуў.

У той жа час сяляне в. Зарэчаны праваслаўныя Якуб Дамінік Аўсейчык (50 г.), Бенедыкт Дзерманоўскі (25 г.) і Аляксей Васільеў Халецкі (40 г.) сказалі, што ўвогуле не ведаюць падсудных і здзівіліся наяўнасцю сваіх прозвішчаў сярод падпісаўшых данос.

Пасля такіх заяў 17 студзеня 1864 года ў Беластоцкую ваенна-следчую камісію быў выкліканы ўжо на той момант былы старшына Аляксей Трафімчук, які сам апынуўся ў беластоцкай турме. Ён паказаў, «что предъявленную ему подпись на списке Волкова он признает за свою и сделал таковую по приказанию Волкова, не зная сущности подписанного и лиц за которых расписывался».

Сам жа маёр Волкаў на запыт камісіі тлумачыў: абвінавачванні ён запісваў са слоў абвінавачаўцаў і «если же они в настоящее время отказываются от прежде данных показаний, то вероятно потому, что успели войти в сношения с обвиняемыми». Аднак такія тлумачэнні не былі прынятыя Беластоцкай ваенна-следчай камісіяй, паколькі занадта многа людзей павінна было ўвайсці ў змову, каб пацвердзіліся словы Волкава. Таму Мікалай Іванюк, Сымон і Віктар Грыкі былі вызвалены і «водворены на прежние места жительства под поручительства общества». А беластоцкага ўезнага ісправніка маёра Волкава звольнілі ад займанай пасады.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**

## Выбары солтыса ў Кузаве

Ад 23 студзеня па 5 лютага ў салэцтвах Чаромхаўскай гміны праходзілі выбары солтысаў. Я 29 студзеня ўдзельнічаў у сходзе ў Кузаве. Сход быў назначаны на 16-ю гадзіну. Паколькі прысутнасць жыхароў не складала 50% упаўнаважаных выбаршчыкаў для прымання рашэнняў, згодна закону пачакалі паўгадзіны і ў другім тэрміне — у 16:30 пачалі сход. Выконваючы абавязкі солтыса Васіль Панасюк прывітаў гасцей, а былі імі войт Міхал Врублеўскі, скарбнік Міраслава Кандрацкая-Найбук, старшыня гміннай выбарчай камісіі Валянціна Верамчук, радная павета Часлава Вілюк, гмінныя радныя Альжбета Каліноўская, Марыя Дубяга і Лявон Купрыцюк, дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк, настаяцель (і заадно жыхар) кузаўскага прыхода а. Рыгор Наўмовіч, гміныя чыноўнікі і прадстаўнік пагранічнікаў, і жыхароў салэцтва. Гэтых апошніх было няшмат, так як і на мінулагодніх выбарах. Прад'яўлены парадак дня быў прыняты 25 кузаўцамі аднагалосна.

Першым голас узяў войт Міхал Врублеўскі, які падзякаваў жыхарам Кузавы за падтрымку ягонай кандыдатуры на самаўрадавых выбарах і абяцаў выконваць свае абавязкі так, каб апраўдаць давер выбаршчыкаў. Пазнаёміў ён прысутных з рэалізацыяй важнейшых гмінных інвестыцый, бюджэтам гміны на цякучы год ды прадбачанымі да рэалізацыі задачамі. У заканчэнні прамоўца пазнаёміў з выкананнем грашовых падатковых плацяжоў. Гэтыя былі выкананыя ў маштабе гміны ў 86,6%.

У час справаздачы солтыса за мінулым тэрмін Васіль Панасюк сказаў: „Аб працы солтыса найлепш ведаюць сяляне і яны змогуць выставіць ацэнку. Асноўнай справай для нашай вёскі з'яўляецца пракладка санітарнай каналізацыі. Гэтая ідзе паспяхова. Іншыя справы рашаюцца на сесіях Рады гміны, у якіх удзельнічаю і важнейшыя рашэнні перадаю да ведама аднасяльчан. Нічога больш не магу тут прыбавіць". Для выбару солтыса была створана падліковая камісія (Марцін Юрчак — старшыня, Ніна Саласюк і Міраслава Кандрацкая-Найбук — члены). На пасаду солтыса быў заяўлены адзін кандыдат — Васіль Панасюк. Згодна закону адбылося тайнае галасаванне. Паводле пратакола падліковай камісіі Васіль Панасюк атрымаў 25 галасоў, значыцца, ён аднагалосна выбраны на пасаду солтыса на чарговы тэрмін.

Чарговым пунктам сходу былі выбары Салэцкай рады. У выніку тайнага галасавання ў раду аднадушна былі выбраны Галіна Бішчук, Аляксандр Саўчук, Юры Качук і Юзаф Грэйнар.

У прапановах і вольных пытаннях Юзаф Грэйнар пытаў, чаму прыёмная асяродка здароўя адкрываецца надта позна, перад прыходам лекара. У зімовы час і пры дажджавым надвор'і пацыенты вымушаны стаяць пад адкрытым небам. Радная павета, заадно медсястра гміннай амбулаторыі Часлава Вілюк адказала, што ранейшае адкрыванне асяродка належыць да прыбіральшчыцы, якая з'яўляецца працаўніцай уладальніцы маёмасці, і на гэта лекар не мае ўплыву. Калі санітаркі прыходзяць раней на дзяжурства, дык і амбулаторыя раней адкрываецца. Жыхары пыталіся яшчэ, чаму ў час рамонту і мадэрнізацыі вясковай святліцы не зрабілі ўнутры туалета. На гэтае пытанне адказала дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк. „Туалет нельга было зрабіць, таму што для гэтай справы патрэбнае кругласутачнае ацяпленне будынка зімою. А таго няма. Затым у зімовы час санітарная каналізацыя магла б замярзаць, а кошт рамонту быў бы надта высокі". Апякунка святліцы Марыя Раманчук прасіла войта і дырэктара цэнтра культуры прыдбаць апал для святліцы на зімовы час. Для гэтай мэты можна было б пакарыстацца ссечанымі дрэвамі з прыдарожнай паласы.

На гэтым сход закончыўся.

**Уладзімір СІДАРУК**

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Кацярына Валкавыцкая (справа)

# Хачу каб больш іскрылася жыццё!

Інтэрв'ю з мастачкай **Кацярынай Валкавыцкай**, аўтаркай, між іншым, малюнкаў да беларускай кніжкі Міры Лукшы «Дзяўчынка і хмарка». Цягам месяца лютага г.г. працуе яе новая выстаўка ў Акруговай лекарскай палаце ў Беластоку, што па вуліцы Свентаянскай.

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Ганна Кандрацюк: — Кацярына, давай спачатку пазначым тэматычныя межы Тваёй выстаўкі.

Кацярына Валкавыцкая: — Анёлы і этна-Падляшша.

ГК: — Ну вось, Твае анёлы ляжаць проста на зямлі, то-бок, на прыгожай тканіне, сатканай на ручных кроснах. Хоціць схіліцца, каб іх дастаць у свае рукі. Скажы, Кацярына, як гэта ёсць, што адны бачаць у падляшскім паветры чорцікаў і дэманаў, а Ты бачыш толькі добрых анёлаў? Як гэта ў Цябе атрымліваецца?

КВ: — *(Смяецца)* Ведаеш, гэта вельмі проста. Усюды былі, ёсць і будуць анёлы ды д'яблы. Усё залежыць ад нас, у які мы бок будзем пакланяцца. Я пакланяюся анёлам. Я заўсёды пакармлю хлебам анёла. На гэта трэба самому запрацаваць, трэба шмат пастарацца, зрабіць шмат добрых учынкаў. Калі пра д'яблаў, яны не толькі ў рэлігіі, яны прысутныя ў кожнай культуры, у многіх рытуалах. Гэта цікавая тэма. Я, аднак, хіба іх баюся...

ГК: — Бачыш гэтыя істоты ў людзях ці можа ў міфах?

КВ: — У мяне такі «чэшскі» падыход да справы: я люблю магічны рэалізм. У мяне ўсё пераплецена — жывыя людзі, фантазія, часам бачу рэчаіснасць адвернутую дагары нагамі. Дадам, што мой прадзед па нацыянальнасці — чэх.

ГК: — Гэта тлумачыць Тваё пачуццё гумару. Аднак калі гляджу на ілюстрацыі анёлаў, у мяне з'яўляецца канкрэтны ўспамін. Яны ў настроі Тваіх малюнкаў, друкаваных у літаратурна-мастацкім часопісе «Карткі».

КВ: — «Карткі» якраз упарта прэзентавалі маю лінію, мой стыль. Я ганаруся супрацоўніцтвам з гэтым часопісам, дзякуючы якому людзі мяне пазнаюць. Той час усё вяртаецца да мяне ў творчым плане, усё яшчэ люблю зрабіць «галавасты» рысунак, адным махам, не адрываючы рукі. Аднак ілюстрацыі на сённяшняй выстаўцы больш нашпігаваныя дэталямі, разбудаваныя. Я таксама іграю тут з дэкорам, з аздобамі. Я яшчэ гавару, што свядома дапускаюся кічу, люблю пагуляць з кічам! Гэта паклон у бок такой наіўнай народнасці, тут усё павінна быць прыгожым, цукеркавым. Прытым адначасова маю вялікую патрэбу рэальнасці. За мной

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Анна Якубоўская — куратар выставы

ходзяць звычайныя, шэрыя людзі, шэры банальны свет. Бачу таксама там многа прыгожага.

ГК: — Твае кашулькі з галовамі людзей дзіўна знаёмыя...

КВ: — На іх твары канкрэтных жывых людзей, якія мне запамяталіся. Гэта не дакладнае адлюстраванне, не партрэт. Там запісаная нейкая эмоцыя, асаблівая прыкмета падгледжаная ў бабулі, што едзе ў аўтобусе, штосьць такое «чэшскае». Мне хацелася, каб яны неяк прамовілі, і дзіва — людзі на вернісажы самі пачалі іх на сябе надзяваць, паказваць на сваім целе, словам, маем тут так пажаданую інтэрактыўнасць.

ГК: — Хачу яшчэ спытаць Цябе пра выставачную актыўнасць. Зараз Ты выстаўляешся ў трох месцах.

КВ: — Так, мае працы можна пабачыць у будынку старой філармоніі, таксама ў новай галерэі «Артэндэ», што па вуліцы Пяста 21. А раней, у верасні, была ў мяне выстаўка ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры. Хачу паказаць, што апрача прафесійнай і хатняй працы, я адкрытая на творчае жыццё. Хачу, каб быў нейкі зрух, каб больш іскрылася жыццё. І галоўнае — каб мае анёлы пайшлі ў людзі!

ГК: — Сёння кожны мог падняць Твайго анёла з зямлі і палічыць яго падарункам, ды нават яшчэ атрымаць аўтограф.

КВ: — Гэта па-нашаму, па-падляшску. Я моцна адчуваю ўсё, што навокал Беластока, усё, што вяжацца з Усходам, проста люблю сваю зямлю, людзей, ландшафты. Я шчаслівая, што тут нарадзілася і жыву.

**Гутарыла Ганна КАНДРАЦЮК**

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# „Бульба сёння, бульба ўчора, бульба з рана і з вячора...”


Марыя Кулакоўская

У роднай хаце Марыі Кулакоўскай кожнага дня пры адным стале харчавалася дванаццаць душ, а дакладней — страўнікаў.

— Люцька, Райка, Ларка, Олік, я, Генё, дзядзя, цёця Маруся і Наташа, а яшчэ парабак, які дзядзю пры жывіне дапамагаў, — пералічвае васьмідзесяцічатырохгадовая радавітая крушынянка. У пераліку, відавочна, забылася яна пра бацьку і маці. Мабыць таму, што маці з-за працы не было калі сесці за стол, а бацька, дык што тут гаварыць, безумоўна сядзеў найбліжэй міскі.

З яе рэканструкцыі давеннага перыяду вынікае, што елі тады даволі шмат, у асноўным бульбу, якая паяўлялася на стале па некалькі разоў у дзень, выдатна пацвярджаючы бульбяную славу беларусаў. Хаця ад такіх страў надта распіхваюцца кішкі, таўсцякоў не было ні ў сям'і спадарыні Марыі, ні і ў Крушынянах.

— Гэта не тое, што цяпер, — гаворыць яна. — Панаядаюцца невядома чаго, пасадзяць задніцу ў трактар, а потым перад тэлевізар. А тады трэба было добра набегацца за сярпом, плугам ці касою.

Ежу варылі на пліце і ў кухоннай печцы, якая ў бацькоўскай хаце маёй субяседніцы была надта вялікай. Спачатку свіням, таму што парнікаў тады не было. У печку засоўвалі шэсць круглых саганоў па тры ў кожны бок. Пасярэдзіне гарэлі дровы. Дадаткова, каб павысіць тэмпературу, гаспадыня запіхала ў кут печкі пучок хворасту. Чарговыя чатыры саганы з бульбай свіням варыліся на пліце. Калі ўсё гэта было гатова і свінні панаядаліся, маці пачынала рыхтаваць сняданак.

— У вёсцы на сняданак так варылі, што цяпер на абед так не наварыць, — кажа мая субяседніца.

Спярша стаўлялі кіслую страву, найчасцей капусту, боршч з буракоў альбо белы боршч, заўсёды з куском мяса ці лыжкай сала. Сала, у адрозненні ад саланіны, таўклі таўкачом (мясарубак тады не было), салілі, прыпраўлялі, закручвалі ў плеўку (перапонку) і стаўлялі на гарышчы. Яно паляжыць, прыялчэе і тады можна ўжо кідаць у страву. З салам спадарыні Марыі найбольш смакавала капуста. Буракі на боршч квасілі так, як агуркі ці капусту. Іх абіралі, клалі цэлымі ці перарэзанымі напалову ў цэбар, залівалі вадой і салілі. Белы боршч, званы квасном, варылі з мяса, бульбы, нарэзанай палоскамі, і пачышчанай, непарэзанай цыбулькі. Прыпраўлялі соллю. Суп заўсёды спажывалі з хлебам. На сняданак варылі таксама васьмілітровы саган бульбы, якую таўклі на так званую белую кашу. Елі яе з супам з малака і круп — ячменных, грачаных ці з проса — альбо з малочнай заціркай. Запівалі зваранай у сагане збожжавай кавай. Снедалі даволі позна, бо а адзінаццатай гадзіне. Да гэтай пары паспявалі моцна прагаладацца. Каманда была вялікая, з'ядалі ўсё, таму на абед, званы ў народзе палуднаваннем, маці ўстаўляла ў печ чарговыя саганы.

— На полудзень, які найчасцей пачынаўся а трэцяй ці чацвёртай гадзіне, елі хто што, — успамінае спадарыня Марыя, — найчасцей панцак з гарохам ці фасоляй, параны гарох адзін альбо суп з гароху і бульбы.

Пазней пяклі таксама чорную кашу, больш далікатна званай бульбяной бабкай.

— Натруць бульбы, прысоляць, прыскварацць, калі ёсць чым, а як няма то цыбулькі ўкрышаць, часнаку і было смачна, — гаворыць мая субяседніца.

Запівалі малаком, а калі яго не хапала, залівалі вадой змелены, пасаладжаны мак. Бычынае малако рабілі з падсушанага канаплянага зерня, якое душылі качалкай у верцесе, а потым залівалі вадою і адстаўлялі, каб нацягнула.

— А летам пасля сняданку мама навараць збанок буракоў, белай кашы, апечанай на патэльні на два бакі, і забірае гэта ў поле ці на падберастаўцкія балоты. Мяса не елі многа, а і перахоўваць яго не было дзе. Затое ў хаце заўсёды быў мёд, хлеб, збанок тварагу, а летам — агуркі.

На вячэру заўсёды варылі цэлую бульбу, якую, каб не задавіцца, запівалі расолам. Яго рыхтавалі з нацёртай, пасоленай, залітай халоднай вадой цыбулькі і квасу з дзежы.

— Як спяклі хлеб, дзежку выскрэбвалі і з гэтага рабілі лепняка. Калі спёкся, астыў, ламалі яго на кавалачкі, клалі назад у дзежку і залівалі 2-3 вядзерцамі вады. Праз 2-3 дні квас быў гатовы. Вясной у расол крышылі яшчэ агурочак альбо зелле агурочніку, якое пахне агурком. Быў таксама малочны суп.

— Хочацца простай ежы, — прызнаецца спадарыня Марыя. — Калі я была замужам, любіла варыць больш сучасныя, багацейшыя стравы, карысталася ўсякімі прыправамі. Цяпер хопіць мне прыскваранай бульба і кубак малака.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Калядкі па-крынску

Шасцігадовая Оля Яцкевіч калядкі спявае з бабуляй Місяй. Найбольш падабаецца ёй „Люляй жа Езуню” і „Ціхая ноч”. Дарэчы, гэтую апошнюю Оля ўмее таксама па-беларуску. Яна — пастаянная наведвальніца Гміннага асяродка культуры ў Крынках Сакольскага павета.

— Са спадарыняй Эляй мы спявалі, спявалі, пакуль не навучыліся, — кажа пра знаёмства з беларускай версіяй дзяўчынка.

Яе аднагодак Філіп Саланевіч разам са сваёй сямігадовай сястрой Оляй калядкі найчасцей спяваюць у хаце альбо на нейкіх прадстаўленнях. Філіп любіць пастаралку пра босага пастушка, а Оля — „Прыбежалі да Бэтлеем”. Праваслаўных калядак пакуль не прыйшлося ім ні слухаць, ні спяваць.

— Упершыню мы іх пачулі ў доме культуры на вечары калядак, — адказваюць згодна.

Мерапрыемства надта ж ім спадабалася.

— Мне найфайней слухалася як Таня спявала, — кажа Філіп.

Выступленне „Заранкі”, членам якой з'яўляецца Таня, найбольш запомнілася таксама яго сястры Олі.

— Мы нават на камеру ў мабільніку запісалі выступленне, — хваляцца.

Моніка Лукашэвіч — прадстаўніца маладога пакалення крынчан — асабіста прыняла ўдзел у калядным канцэрце. Традыцыю калядавання вынесла яна з хаты.

— Я ўвогуле люблю ўсе калядкі, — прызнаецца дзяўчына.

Беларускія ўпершыню пачула два гады таму тут, у крынскім доме культуры. Пра іх прысутнасць, як заўсёды, паклапаціліся дзеткі з „Заранкі”. Свае вясёлыя „Добры вечар тому, хто ў гэтаму дому”, „Чэраз поля, лес ішла каляда” ці навагоднюю шчадроўку яны не толькі праспявалі, але таксама станцавалі і зайгралі на шматлікіх інструментах. Сярод удзельнікаў крынскага каляднага вечара традыцыйна ўжо апынуўся хор пенсіянераў „Пагодна есень”. У новых вячэрніх сукенках, як заўсёды паспяхова, запрэзэнтаваліся найпрыгажэйшыя крынчанкі з калектыву „Экзіт”. Захапілі яны публіку не толькі сваёй элегантнасцю, але таксама майстэрскім выкананнем традыцыйных і сучасных польскіх калядак і пастаралак.

Не абышлося і без выступленняў маладых інструменталістаў, якія штодзень працуюць пад вокам гродзенскіх інструктарак Інесы Кур'янавай і Ліліяны Жылінскай.


Гітарны тэрцэт


„Заранка”

Цвіком праграмы аказаўся канцэрт гасцей з дома культуры ў Кузніцы-Беластоцкай. Калектыў з прадстаўнікоў розных пакаленняў паказаў традыцыйныя калядкі і аўтарскія лірычныя песні, якія расхвалявалі публіку да слёз. Кіраўнік гурта, а заадно дырэктар кузніцкага дома культуры Анджэй Борыс праявіў сябе як выдатны паэт, аранжыроўшчык, піяніст і перш за ўсё чалавек, які з людзьмі можа стварыць цуды. Дзякуючы ўсім ягоным прыкметам выступленне атрымалася надта лёгкім і натуральным.

— Са спадаром Анджэем супрацоўнічаем ужо шмат гадоў, — гаворыць арганізатарка крынскага вечара Альжбета Чарэмха. — Мы прымаем удзел у іх бардаўскім конкурсе, ездзім з батлейкамі, а яны паказваюць свае дасягненні ў нас.

Крынскі калядны вечар сваёй прысутнасцю ўдастоіў бургамістр Крынак Іаланта Гудалеўская і ксёндз крынскага касцёла св. Ганны.

Пасля канцэрта прысутная ў зале праваслаўная пенсіянерка заўважыла:

— Жаль, што ў Крынках беларускія калядкі спяваюць толькі дзеці.

Іаанна ЧАБАН

Фота з архіва Гміннага асяродка культуры ў Крынках

# „Па-просту”, гэта значыць як?

У праекце Монікі Гадлеўскай „папросту” называецца беларуская гаворка ваколіц Саколкі і Дубровы-Беластоцкай. *Талерка, ганавіцы, петух, варыць палудзень* — мастацкія плакаты з гэтымі і іншымі словамі можна было глядзець да 13 лютага ў памяшканні Ваяводскага асяродка анімацыі культуры па вуліцы Кілінскага 8 у Беластоку. Выстава прымеркаваная да выхаду кніжачкі для дзяцей, якую ў межах артыстычнай стыпендыі маршалка Падляшскага ваяводства падрыхтавала Моніка Гадлеўская. Сама яна паходзіць з рэгіёна, дзе людзі не гавораць на беларускім дыялекце — з-за ракі Бобры, няцэлых сорак кіламетраў ад згаданых у кніжцы гарадоў.




— Упершыню гэтую гаворку пачула я гадоў таму дзесяць. Мая бабуля размаўляе на гаворцы, але не такой. Я пацікавілася, чаму за ракой людзі гавораць па-іншаму. Спачатку не ўсе словы былі зразумелыя, таму я распытвала, што яны абазначаюць. Мой план на бліжэйшую будучыню — цалкам засвоіць „простую” мову, — распавядае Моніка Гадлеўская.

Кніжка „Па-просту. Ад *а* да *з*” аздобленая тэматычнымі карцінкамі. Малюнкі можна дапаўняць самастойна, а таксама выразаць іх. На кожнай старонцы дзеці знаёмяцца з — напісанымі лацінкай — словамі і фразамі. Публікацыя афармлена цікава і эстэтычна — Моніка Гадлеўская навучаецца ў дактарантуры ў Лодзінскай акадэміі мастацтваў. „Люблю працаваць з дзецьмі, таму праект спалучае мае зацікаўленні”, — кажа.

Беларускую гаворку, якой прысвяціла артыстычную кніжку, аўтарка праекта назвала „падляшскай”. Як патлумачыла сама аўтарка, яна ўсведамляе, што моцныя карані Дуброўшчыны і Сакольшчыны — беларускія. Аднак, падбіраючы загаловак для кніжкі, хацела звярнуць увагу сваіх знаёмых з Польшчы на тэрыторыю, дзе карыстаюцца яшчэ гаворкай, таму спрацаваў чыста геаграфічны фактар. Ды і немагчыма перабльітаць гэтую мову з нейкай іншай — ніводзін паляк, паглядзеўшы змест кніжачкі, не скажа, што гэта дыялект польскай мовы. Варта было б толькі растлумачыць мэтавай групе чытачоў — дзеткам — чаму такія словы можна пачуць ад жыхароў рэгёнаў распалажаных на поўнач ад Беластока, у бок Гародні. У гэтым канкрэтным выпадку — ад Тэрэсы і Генрыка Радзівонаў з Грабова, якія для Монікі Гадлеўскай сталі крыніцай жывой „простай” мовы.

Артыстычна-адукацыйнае выданне для дзетак можна заказаць у аўтаркі. Дэталёвая інфармацыя і кантакты — на сайце www.poprostuodadoz.pl.

Тэкст і фота Ганны МОРДАНЬ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Страшны комікс «ПРА КАСТУСЯ»

Пачнем з асцярогі. Гэтай моладзевай кніжкі «Пра Кастуся» мы не рэкамендуем баязліўцам і слабакам! Комікс пачынаецца крывавай сцэнай з падахвочаным катам, якому вельмі хочацца адсекчы чарговую галаву. Галоўны герой, Каліноўскі, называе яго «драўлянай чакухай» ды стае ў абарону прысуджанага на смерць нявіннага мужыка. Кастусь спачатку пераадзеты ў «дзеда-вешчуна», таму народ, які прыкацііў палюбавацца крывавай экзекуцыяй, з цікаўнасцю ўспрымае яго словы. Таксама ў ката замірае ахвота падзейнічаць і ён заганяе сваю сякеру ў тоўсты пень. Здарэнне адбываецца ля старога млына ў вёсцы Бахарэвічы. Кастусь адчувае тут асаблівую моц і ён звяртаецца да народу з заклікам змагацца за свае правы. Аднак ліха не спіць! Да вёскі набліжаюцца карнікі з сумнавядомым вешальнікам Навасільцавым, успыхвае страляніна: бам-м, бом-м, бам-м... Хто пераможа ў баі, вядомым у гісторыі як бітва пад Мілавідамі? Пра гэтую падзею павінен ведаць кожны беларус!




Комікс, дзякуючы малюнкам Уладзіміра Дрындрожыка, бязлітасна абыходзіцца з карнікамі. У іх камічныя фігуры і бязлітасныя дыялогі. Сюжэт пабудаваны на аснове твора Уладзіміра Караткевіча пад аднайменным загалоўкам «Кастусь Каліноўскі». Куратар праекта Анатоль Івашчанка піша ў прадмове: «У нашай літаратуры было нямала спробаў стварыць вобраз Каліноўскага: яму прысвячаліся вершы, паэмы, аповесці і нават раманы. Бо Кастусь — наш нацыянальны супергерой! Сапраўды, беларускія мастакі, літаратары, музыканты і гісторыкі робяць вельмі шмат, каб перадаць нашчадкам ідэйны запавет Кастуся Каліноўскага. Ён — сімвал змагання за свабоду народаў і грамадскую справядлівасць. Каліноўскі — наш зямляк, ён нарадзіўся ў Мастаўлянах на Гарадоччыне. Аднак гэты персанаж усё для нас таемны і неразгаданы. Комікс «Пра Кастуся» дапаможа нам не толькі асветліць асобу супергероя і гістарычныя падзеі. Ён дапаможа нам крытычна глянуць на саміх сябе, на нашу самазадаволенасць і недахоп увагі да іншых людзей.

ЗОРКА

# НАЙЛЕПШЫ ПІРОГ
*(руская казка)*

У адной вёсцы жылі дзед ды баба. Жылі яны добра, аднак любілі з сабой паспрачацца. Аднойчы бабка гатавала абед, дзед ляжаў на печцы. На двары была позняя восень, дзьмуў моцны вецер, які адчыніў дзверы ў хату.

— Зачыні дзверы, бабка! — кажа дзед.

— Ты сам зачыні, — адказала баба.

Старэчы доўга спрачаліся хто мае зачыніць дзверы. У канцы дзед кажа:

— Той, хто першы з нас вымавіць слова, той і зачыніць дзверы!

— Згодна, хай табе будзе!

Яны адразу змоўклі, быццам вады ў рот набраўшы. Бабуся падрыхтавала абед і села моўчкі адпачываць. А дзед ляжыць як калода на печцы, чакае запрашэння за стол.

Надышоў вечар — у хаце ўсе маўчаць.

Якраз праходзілі міма два вандроўнікі. Увайшлі яны ў хату і пытаюць:

— Ці ёсць у хаце гаспадар?

Дзед і бабка маўчаць. Тады яны ўзялі суп, кашу, пірог… З’елі ўсё, што стаяла ў гаршках, і талкуюць:

— Усё было вельмі смачна, толькі пірог нешта недапечаны, сыраваты.

— Гэта няпраўда! — закрычала абураная бабка. — Мой пірог найлепшы, круглы, румяны!

— А ну, бабка, зачыні дзверы! — адазваўся дзед.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**



*Юры БАЕНА*

## Бабулька

*Бывае, жыццё не радуе,*
*клопаты сцеле ўсё лёс.*
*І толькі вось добрая бабулька*
*пацешыць цябе аж да слёз.*

*Мы ўсе для яе ўнукі мілыя,*
*як сонца, як ветрык, як сон.*
*Далоні яе, так любімыя,*
*да сэрца прытуляць ізноў.*

*У бабулі справы штодзённыя,*
*мы пяем пра новыя дні.*
*Бо ўсе для яе ўнукі мілыя,*
*за кожнага сэрца баліць.*

*Бабуліны словы прыгожыя*
*азараюць заўсёды дабро.*
*Ужо падарунак цікавенькі*
*пакладзены ў сумку тайком.*

*У бабулінай хатцы светленька.*
*Коцік на лавачцы спіць.*
*Парадак, усюды так чысценька.*
*Ліпка ў аконца глядзіць.*

*Глядзіць, весяліцца, усміхаецца.*
*Гадзіннік цікае цік-так.*
*Да сустрэчы, наша бабулька.*
*Прабач, калі штосьці не так.*

## Загадкі з роднай хаткі

Аграном
Ідзе па полі.
Чарвякоў
Яму бы болей.
Даўганосы,
Хоць і босы,
Але мае
Чорны фрак.
З выраю вярнуўся
Г...

Цёмна-сіняя радзюжка
Уся ўсеяна гарошкам,
Пасярод акрайчык хлеба,
Хто адкажа так, як трэба?
Н...

## УВАГА КОНКУРС! № 7-15

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 22 лютага 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 3-15: снег, снег, іголка.**

**Узнагароды, кампакт-дыск Вольгі Акуліч «Трохкутнік», выйгралі Габрыеля Карбоўская, Аляксандра Буслоўская з Гайнаўкі, кампакт-дыск Эдуарда Акуліна «Не магу жыць без крыл» — Іаанна Нікіцюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

Караліна КАРАВАЙ, Гімназія ў Нараўцы

# Максім і Сашка (ч. 2)

Максім апрытамнеў толькі тады, калі пранізлівы віск перарваў злоснае вурчанне ваўкоў і цішыню пушчы. У гэты раз гэты голас быў перапоўнены болем, страхам і цярпеннем. Мужчына скочыў на зямлю, схапіў дзве доўгія галіны і ўдараючы адна аб другую пайшоў на ваўкоў. Шэрыя драпежнікі, якіх вочы ў гэтай глушы здаваліся яшчэ страшнейшымі, відна не чакалі такой сітуацыі, бо хутка павярнулі ў лес, пакінуўшы сваю здабычу.

Максім змерыўся з цяжкім праціўнікам — з самім сабою. Ён прызваў успаміны, страх і жаль, якія скрываў у сабе з дзіцячых гадоў.

Конь ляжаў на зямлі, цяжка дыхаў і фурчаў храпамі. Мужчына зрабіў крок наперад, а жывёла хутка паднялa галаву і страшнымі вачыма сачыла за ім. Была аднак заслабая, каб устаць. Мужчына падышоў бліжэй і толькі цяпер убачыў, як выглядаў гэты конь. Ён быў жахліва худы, праз скуру відаць было рэбры, а ўскалмачаная поўсць даўно страціла свой бляск. Яе даўно ніхто не гладзіў, не часаў, ніхто не даглядаў. Заднія ногі каня былі пацарапаныя, поўныя ран, з якіх сачылася кроў. Конь утаропіў спалоханыя вочы ў мужчыну і пачаў махаць нагамі. Відаць, хацеў устаць, каб уцячы, каб вырвацца смерці. У яго вачах было штосьці, што Максім добра ведаў — ён убачыў сябе трыццаць гадоў таму, калі яму так моцна хацелася жыць. Мужчына падышоў яшчэ бліжэй да каня і прысеў пры раненай жывёле. Выцягнуў руку і далікатна пагладзіў каня па шыі. Той, аднак, далей са страхам глядзеў на незнаёмага чалавека.

— Хто цябе так скрыўдзіў? — ласкава прашаптаў Максім да каня, якога пакінулі апошнія сілы.

Цяпер ён спакойна мог пачысціць яму поўсць, прамыць вадой раны на нагах, вочы і храпы. На задзе ўбачыў шнары. Толькі цяпер зразумеў ён дзіўныя паводзіны жывёлы, яе недаверлівасць у адносінах да чалавека. Шнары сведчылі аб тым, што нехта доўга здзекаваўся над гэтай прыгожай калісьці жывёлай.

Затым Максім пайшоў да найбліжэйшай карумушкі, каб прынесці сена. Вяртаючыся, ён убачыў расліны, якія калісьці збіраў дзядуля, якога ўкусіў сабака. Да гэтай пары ён не ведаў, як называецца гэтае зелле, якое ў тыя часы было дасканалай прымочкай на раны. Затое яго сэрца ахапіла вялікая радасць. Зноў адчуў сябе шчаслівым як дзіця, якое атрымала пахвалу.

Конь ляжаў у тым самым месцы. Атака ваўкоў і перажытае высмакталі з яго апошнія сілы, але ён дыхаў ужо рэгулярна і спакойна. На прынесенае сена нават не паглядзеў. Мужчына паклаў сцірту сухой травы каля каня, а сам узяўся за падрыхтаванне лякарства. На камені расцёр лісткі расліны, каб пацёк з яе сок, затым асцярожна прыклаў зелле да кожнай раны.

Надыходзіў вечар. Конь ушчыкнуў жменю сена, аднак далей не хацеў есці. Затое ўсё будзіла ў ім трывогу. Ласкавы дотык Максімавай рукі супакойваў яго страх. Раны пасля атакі ваўкоў перасталі крывавіць. Толькі цяпер мужчына змог сабраць і ўпарадкаваць свае думкі. Ён ведаў, што павінен астацца з канём тут нанач, у іншым выпадку жывёле пагражала небяспека. У хаце і так яго ніхто не чакаў, а ночы не былі яшчэ халодныя.

Максім назбіраў сухога галля і расклаў невялікі агонь. І тут успомніў даўнія часы, калі з сябрамі начавалі ў лесе, як прыемна было спаць пад голым небам. Але ў гэтую ноч ён не мог заснуць...

Фота Міры ЛУКШЫ

## „Балотавік і балоткі” — новыя прапановы!

**Ну і дачакаліся! Нарэшце прыйшлі зімовыя канікулы 2015 года. Усе аднак сумныя, і хлопчык, і дзяўчынка, бо няма снегу! А дзе ён? Ніхто не ведае. Але нічога. Гуляць можна і без снегу. Замест ляпіць снегавіка, можна зляпіць „балотавіка”. Ці не праўда гэта? Бітва на снежкі можа стаць бітвай на „балоткі”. А і на балоце можна пакатацца на каньках! А санкі? З санкамі таксама вельмі простая справа. Для гэтага можа паслужыць лесвіца ў хаце!**

**Гульня, гульня, гульня! Каб толькі бацькі дазволілі...**

**Вераніка Кардзюкевіч,**
**НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку**

# Вершы Віктара Шведа

## Ці ты верыш у д'ябла?

На рэлігіі ўроку
Сталася шумна навокал.
Пытае сяброўку Вера:
— Ці ты ў д'ябла верыш?

— З д'яблам справа такая,
Як са святым Мікалаем.
Даведваемся пасля свята,
Што гэта папросту тата.

## Замест нюхаць — вучыць!

Настаўнік у дзённіку піша:
— Ваш дарагі сыночак Міша
Страшэнна ўжо смярдзіць,
Яго трэба часцей мыць!

Бацька спаўняе
сваю павіннасць:
— Не трэба нюхаць
нашага сына.
Замест Міхаську
брудам кляміць —
Трэба яго толькі
добра вучыць!

## Каб уцёк мароз

Хоць зіма марозная,
Хоць гудзе віхор,
Хоць надвор'е грознае,
Цягне ўсіх на двор.

Белымі дарожкамі
Ходзіць Васілёк,
Тупае ён ножкамі,
Каб мароз уцёк.

## Прагул

Як дамоў вярнуўся
на змярканні,
Мама прывітала
грозным зрокам:
— Сёння зноў у школе
наракалі
На цябе былі ты, абібок...

Каб нейк супакоіць
сваю матку
Адказаў з гарэзлівасцю Коля:
— Гэта ж, мама,
на мяне напад кі,
Сёння я зусім не быў у школе.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 3:**

Плакса, Ала, сіла, матылёк, каток, сок, грак, брат. Парк, маса, паток, ток, сык, іл, яр, лёска, арак.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Юлія Календа**, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Вераніка Жох**, **Караліна Трусевіч**, **Аляксандра Буслоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Наталля Лукша** з Нараўкі, **Клаўдзія Ніканчук**, **Дыяна Хіліманюк**, **Міхал Тапалянскі**, **Бартэк Чамярыс** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Komitet | Wy / Owies | Śpiew | Wiosna | | Łapa / Łydka | | | | |
| | | | | Język / Autor | | | | | Jarzębina | |
| | | Pas / Para | | | | Tata / Imam | | | | |
| | My / Kogucik | | | | | | | Tur | Oka | |
| | Automat | | | | | | | | | |
| | Teatr | | | | | | | | | |
| | | | | | Marka | | | | | |

№ 7-15

№ 07 [15-02-2015]

# Юбілейны фотаконкурс «Падляшша ў аб'ектыве»

Выстава здымкаў юбілейнага дзясятага выпуску Агульнапольскага фатаграфічнага конкурсу імя Віктара Волкава «Падляшша ў аб'ектыве» будзе працаваць да кастрычніка 2015 года ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, які з'яўляецца галоўным арганізатарам фотаконкурсу. У мінулым меў ён нават рысы міжнароднага конкурсу, калі ўдзельнічалі ў ім грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Да юбілейнага фотаконкурсу «Падляшша ў аб'ектыве» прыступіла 68 асоб, якія прыслалі каля 200 фатаграфій на тэму Падляшша. Былі гэта жыхары розных гарадоў Польшчы, але найбольш удзельнікаў конкурсу было з Гайнаўшчыны, Бельска-Падляшскага і Беластока. У сувязі з юбілеем арганізатары фотаконкурсу рашыліся паказаць шырокафарматныя пераможныя і вылучаныя здымкі, каб лепш паказаць іх дэталі і мастацкія вартасці.




Сэбастыян Паўляк на фоне ўзнагароджаных фатаграфій




Вылучаныя фатаграфіі з Гайнаўшчыны аўтарства Кацпэра Ігара Кэчынскага, Магдалены Тэтэдрынко і Паўла Васюка

На адкрыццё конкурснай выставы і падвядзенне вынікаў фотаконкурсу «Падляшша ў аб'ектыве» прыбылі перш за ўсё канкурсанты і іх сямейнікі, а таксама аматары фотамастацтва. Фатографы з іншых ваяводстваў шукалі па Гайнаўцы сядзібу музея, а пасля цікава было ім паглядзець выставы на музейных калідорах, што было таксама прамоцыяй Гайнаўскага белмузея на Польшчу. Да конкурсу прыступаюць, між іншым, мясцовыя і прыезджыя беларусы. Некаторыя з іх на працягу 10 гадоў здабывалі прызы.

— Падчас сёлетняга юбілейнага конкурсу мы падводзім яго вынікі. Конкурсу «Падляшша ў аб'ектыве» нядаўна было прысвоена імя вядомага фатографа Віктара Волкава. Спачатку ўзровень конкурсных прац быў ніжэйшы, але ад чатырох гадоў конкурс трымаецца на роўным высокім узроўні і таму штораз больш фатографаў з Польшчы прымаюць у ім удзел. Падчас папярэдніх выпускаў на конкурсных выставах мы паказвалі больш за 90% дасланых нам фатаграфій. Зараз прэзентуем толькі 40 здымкаў, дакладней кажучы, прэзентуем іх шырокафарматныя копіі. Арганізуючы фотаконкурс, мы папулярызуем не толькі Падляшша, але і Гайнаўку, і белмузей, і іншыя мясцовасці, дзе пражываюць беларусы. Хочам выдаць альбом з лепшымі фатаграфіямі і шукаем сродкі для здзяйснення гэтай задумы, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

Падляшша — гэта прыгожая прырода, Белавежская і Кнышынская пушчы, прыгожае наваколле рэк Нарвы і Бобры, лясная жывёла, птушкі. Турысты цікавяцца таксама драўлянай архітэктурай. Фатаграфіі гэтых месцаў і аб'ектаў удзельнікі фотаконкурсу дасылалі на працягу 10-ці яго выпускаў. Фатаграфавалі яны таксама сакральную архітэктуру, цікавыя месцы ў гарадах, людзей і іншыя сюжэты. Сёлетнім лаўрэатам першай узнагароды стаў Сэбастыян Паўляк з Ламянак, другое месца заняў Ян Сладоўскі з Варшавы, а на трэцім месцы апынуліся Данель Астапчук з Бельска-Падляшскага і Славамір Катара з Мінска-Мазавецкага. Дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк уручыў узнагароды пераможцам і вылучаным аўтарам, а ўсім удзельнікам — дыпломы. Каровы сталі гераінямі ўзнагароджаных фатаграфій: «Карова на Падляшшы: Акно на свет» Сэбастыяна Паўляка з Ламянак і «Наваколле Тыневіч-Вялікіх» Данеля Астапчука з Бельска-Падляшскага. Канешне, узнагароды былі прысуджаны за асаблівую кампазіцыю і святло, але наведвальнікі выставы звярталі ўвагу і на змест здымкаў.




Анджэй Кэчынскі побач свайго здымка (фатаграфуе яго жонка Ева Мароз-Кэчынская)

— Я гэтых кароў убачыў выпадкова, затрымаўся і сфатаграфаваў іх. Пасля праязджаў побач гэтага месца больш разоў, але другі раз ужо не ўбачыў такой кампазіцыі з каровамі, — заявіў Сэбастыян Паўляк.

Данель Астапчук з Бельска-Падляшскага сфатаграфаваў кароў на лузе ў наваколлі Тыневіч-Вялікіх. Відаць іх у цікавым асвятленні з-за імглы, на фоне птушак у палёце. Аўтар гэтага здымка мусіў падрыхтавацца, каб у аб'ектыў фотаапарата злавіць адпаведны момант. У падобнай манеры фатаграфаваў Віктар Волкаў.

— Некаторыя конкурсныя фатаграфіі тэмамі, формулай і кліматам нагадваюць здымкі Віктара Волкава — патрона фотаконкурсу. Радуе таксама, што паявіліся здымкі, якія паказваюць сучаснае Падляшша, зафіксаванае па-новаму. Напрыклад, некалькі гадоў назад першую ўзнагароду здабыў здымак шыбы аўтобуса, у якой адбіваецца архітэктура Беластока, — сказала Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея.

На ўзнагароджанай другім месцам фатаграфіі «Падарожжа» Ян Сладоўскі з Варшавы на фоне восеньскай прыроды паказвае традыцыйны конны воз, на якім едуць апранутыя па-вясковаму мужчына і жанчына. Такую карціну рэдка ўжо можна ўбачыць. У здымка таксама цікавая кампазіцыя. Трэцяе раўнапраўнае месца заняла непаўторная фатаграфія «Веснавая паводка» Славаміра Катары з Мінска-Мазавецкага.

— Конкурс «Падляшша ў аб'ектыве» — адзін з найбольш вядомых на Падляшшы фотаконкурсаў. Дазваляе ён паказваць асаблівасці Падляшша. Раней лічыліся імі прыгожая прырода, старая архітэктура. Ахвотна фатаграфаваліся бедныя людзі і месцы, якія паказвалі адсталасць Падляшша ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Польшчы. Зараз на конкурс паступае штораз больш фатаграфій, на якіх відаць больш сучаснае Падляшша, гарады, хаця такіх здымкаў яшчэ нямнога, — сказаў адзін з удзельнікаў конкурсу.

Вылучэнні атрымалі Анджэй Кэчынскі і яго сын Кацпэр Ігар, якія цікава сфатаграфавалі драўляную і мураваную цэрквы ў Новым Беразове.

— Я асаблівa рада перамозе сына, бо муж здаўна добра фатаграфуе. Вылучэнне сына на агульнапольскім конкурсе гэта для яго вялікая справа, — сказала маці Ігара, Ева Мароз-Кэчынская.

— Фатаграфію, адразу з дзвюма цэрквамі і пры слабым асвятленні, выканаў я без дадатковага мантавання. Складана было яе зрабіць. Дзеля гэтага патрэбнае было адпаведнае надвор'е. Хаця я жыву побач драўлянай царквы ў Беразове, то толькі адзін раз удалося мне зрабіць такі непаўторны здымак, — заявіў Анджэй Кэчынскі. — Мой сын хацеў таксама зрабіць непаўторны здымак і таму рашыўся зрабіць фатаграфію царквы, а канкрэтна яе адбітак на мыльнай бурбалцы. Фатаграфаваў бурбалкі да гэтай пары, ажно атрымаўся адпаведны здымак.

Іншыя вылучаныя ўдзельнікі конкурсу выканалі таксама цікавыя здымкі. Магдалена Тэтэдрынко з Гайнаўкі сфатаграфавала стары чыгуначны пуць у Белавежскай пушчы і Гайнаўку восенню ды захопленага бацьку з дзіцём, якія шпацыруюць па парку. Павел Васюк з Гайнаўкі — аўтар здымка «Вянок на вадзе», зробленага непадалёк Рыбакоў, магчыма, падчас «Купалля». Яраслаў Клей з Саколкі выканаў цікавыя здымкі звысоку. Магдалена Антановіч з Радуляў сфатаграфавала зіму з канём і санкамі. Шкада, што на падвядзенне вынікаў не прыбылі члены журы (Бажэна Валенцік, Тамаш Класоўскі і Яраслаў Хыра). Сабраныя хацелі б ведаць за што былі ўзнагароджаны паасобныя фатаграфіі. Заўвагі наконт фотаконкурсу прад'явіў гайнаўскі фатограф Уладзіслаў Завадскі. Прапанаваў ён абмежаваць паасобныя выпускі конкурсу да канкрэтных тэм, а ў састаў журы ўключаць таксама беларусаў, якім лягчэй заўважыць нашую нацыянальную адметнасць на Падляшшы. Дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк патлумачыў, што была спроба акрэсліць тэму выпускаў фотаконкурсу, але скончылася яна правалам. Сказаў таксама, што ў састаў журы раней уваходзілі таксама і беларусы, а падчас апошніх выпускаў у конкурснай камісіі працавалі прызнаныя фатографы Падляшша.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# «Сустрэчы» і «Прысутнасць»

## Частка 2 — «Прысутнасць»

**«Ніва» будучы прэсавым органам Беларускага грамадска-культурнага таварыства, а папраўдзе ўсяго беларускага асяроддзя, на сваіх палосках шмат месца адводзіла дзейнасці беларускіх студэнтаў. Ніўскія журналісты часта пабывалі на студэнцкіх вечарынах: атрасінах, рэйдах-падарожжах ці звычайных сходах.**

**Гэтак было да канца 1985 года.**

**У той больш-менш час, калі з Яўгенам Вапам наведалі мы рэдакцыю штотыднёвіка, у гутарцы з намеснікам рэдактара Міколам Гайдуком даспела думка стварыць штомесячную студэнцкую старонку. Назву «Прысутнасць» прыдумаў Лёнік Тарасэвіч. Проста мы, студэнты, заяўляем пра сваю прысутнасць у беларускім жыцці ў Польшчы.**

«Мы, з божае ласкі студэнты беларускай нацыянальнасці, перадаем новую старонку агульнавядомай газеты ў рукі чытачоў Беластоцкага краю і ўсяе Польшчы. Амін», — пісаў Аляксандр Максімюк у артыкуле, якім абвяшчаў пастаяннае рэдагаванне ў тыднёвіку «Ніва» студэнцкага дадатка «Прысутнасць».

Штомесячная старонка, якая з'явілася ў «Ніве» з пачаткам 1986 года, гэта не тое што «Сустрэчы» (як удасца — раз на 3 месяцы). Тут патрэбная была рэгулярнасць і напруга ды... звычайная адказнасць, а з гэтым у студэнтаў бывала па-рознаму. І гэта часта не па прычыне ляноты, часам трэба было вучыцца, хадзіць на даклады, здабываць залікі, ці здаваць экзамены.

Але затое мелі мы свой, як не круці, штомесячнік. Так як «Зорка» была тыднёвікам для беларускіх дзетак, так «Прысутнасць» — штомесячнікам беларускіх студэнтаў.

Мела яна свой рэдакцыйны калектыў. У першыя гады складалі яго Яўген Вапа, Мікола Ваўранюк, Валік Сельвясюк, Аляксандр Максімюк і Юрка Ляшчынскі. Мастацкім сутнасць» — так. Хаця вядома, што і там, і там была дзяржаўная цэнзура. Часта трэба было пісаць так, каб патрэбнае можна было вычытаць між радкоў.

Час ад часу на студэнцкай старонцы змяшчаліся і літаратурныя спробы. Тады яшчэ не было конкурсу «Дэбют», а думаю што апавяданне «Сустрэча са славутым літаратарам» атрымала б вылучэнне. Пагартайма старонкі «Прысутнасці». Трох беларускіх студэнтаў Варшаўскага ўніверсітэта падчас вераснёўскіх экзаменаў на панадворку ўніверсітэта сустрэў адзін з вядомых беларускіх паэтаў. Студэнты прывіталіся з паэтам і накіроўваліся ў сваю дарогу, але пасля хвіліны паэт нешта ўзгадаў і вось фрагмент апавядання пра літаратара і разяватага студэнта Жабу:

«— Жаба, Жаба, вы яшчэ не ажаніліся, — адным духам выпаліў Славуты Літаратар.

— Не, — хутчэй інтуітыўна, чым свядомы чаго ад яго хочуць, адказаў разяваты студэнт.

— Дзякуй, — выразна павесялеўшы Літаратар адвярнуўся на пяце і пакрочыў энергічна ў свой бок.

А студэнты доўга яшчэ стаялі ў тым самым месцы і праводзілі зрокам Славутага Літаратара, думкі якога былі ўжо далёка ад штодзённых клопатаў».

У «Прысутнасці» ад 1988 года маю ўвагу звярнуў артыкул Яўгена Вапы «25 «Прысутнасць» на 25 Сакавіка», дзе аўтар у даволі сімвалічны спосаб піша пра нашы юбілеі: «Сярэдні ўзрост членаў «Прысутнасці» таксама 25-гадовы. Нагода, дзеля невялічкага юбілею». І паясняю цяпер — вялікага юбілею 70 угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

У «Прысутнасці» таго часу змешчана была дэкларацыя Беларускага аб'яднання студэнтаў (ад 26 сакавіка 1988 года). Тады менавіта падчас святкавання студэнта-

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

афармленнем займаўся Лёнік Тарасэвіч. Амаль тыя ж самыя студэнты, што рэдагавалі «Сустрэчы». Хаця не да канца. У асноўным у першыя гады «Прысутнасцю» займаліся Яўген і я. Пазней, недзе каля 1988 года, пачало гэта мяняцца. Прыходзілі новыя рэдактары.

Аб чым пісалася ў «Прысутнасці»?

У першым выданні «Прысутнасці» былі згаданы ўступ, аб'ява пра конкурс (вельмі жартоўны) і не менш жартоўны верш пра новы год, а дакладней пра навагодні беларускі баль у Палацы культуры ў Варшаве. Але вось, для прыкладу, «Прысутнасць» ад 18 ліпеня 1987 года была больш сур'ёзная. «Дарогі клічуць» — запрашэнне на студэнцкі рэйд «Бацькаўшчына» па Беласточчыне, затым справаздача з маладзёвага «Купалля» ў Супраслі, а таксама агляд апошняга нумара «Сустрэч». Працытую: «Амаль праз год убачыў свет чарговы нумар студэнцкага часопіса «Сустрэчы». Пераадолеўшы ўсе цяжкасці, урэшце ўдалося нашым студэнтам выпусціць яго шосты нумар. Не цяжка зарыентавацца, што матэрыялы былі падрыхтаваны найменш паўгода таму назад». І далей пра змест часопіса і нараканні на Згуртаванне польскіх студэнтаў (ЗПС), якое фармальна было выдаўцом. Пад артыкулам падпісаны псеўданімам аўтар «Прысутны». Хто гэта?

У асноўным у «Прысутнасці» дамінавалі студэнцкія, злабадзённыя праблемы, справаздачы з мерапрыемстваў, такія як студэнцкія падарожжы, атрасіны. Былі хроніка студэнцкага жыцця і літаратурныя спробы.

Варта адзначыць, што ў «Прысутнасці» можна было пісаць нават пра нефармальныя справы. Вось рубрыка «Хроніка» ад 22 сакавіка 1986 года: «У сціплых умовах, у невялічкім памяшканні, інтэрнацкім пакойчыку. У Беластоку, адбылася вечарына, якую можна назваць паэтычнай». Чаго датычыла вечарына і з якой была нагоды не пісалася. Я тут рассакрэчу, што гэта было ўшанаванне Дня Волі — Акту 25 Сакавіка. Але пра гэта нельга тады было ўголас казаць.

Ужо год пазней шмат тэкстаў было прысвечаных І З'езду беларускіх студэнтаў у Бельску-Падляшскім у сакавіку 1987 года. Прысутнічала, увага, больш за 170 студэнтаў. Цяпер толькі памарыць. З'езд быў адмоўна ацэнены Радай культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей, значыць ЗПСам. Бо адной з прапаноў было стварэнне незалежнага Беларускага аб'яднання студэнтаў, што, дарэчы, здзейснілася паўтара года пазней, восенню 1988 года.

«Сустрэчы» не пісалі пра З'езд і яго прапановы, «Прымі Акту 25 Сакавіка арганізаваўся Устаноўчы камітэт незалежнай студэнцкай арганізацыі — Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС). Да рэдакцыйнага калектыву студэнцкай старонкі далучылася Барбара Кучынская (пазней Пякарская), паколькі вучылася яна ў Беластоку. У «Прысутнасці» ўсё больш было артыкулаў ці звычайных інфармацый пра дзейнасць беластоцкага, не толькі студэнцкага, асяроддзя. У артыкуле пра маладзёвае паломніцтва сябраў БАСу на Святую Гару Грабарку чытаем:

«... Цешыць вельмі, што памалу гэтыя паломніцтвы перастаюць быць толькі польскамоўнымі ў палатках, а рускамоўнымі ў царкве. Паяўляецца народная мова. Істотным для нас быў факт, што існаваў беларускі сектар. Мы мелі свайго святара Уладзіміра Місеюка, з якім маглі гаварыць, дыскутаваць па-беларуску. Усе маглі паглядзець беларускія выстаўкі з жыцця БАС, некалькі інфармацый пра Лёніка Тарасэвіча і яго карціны, рэкамендацыю беларускіх кандыдатаў у Сейм і Сенат. Вогнішча цэлы час вялося па-свойму».

З канцом 1980-х гадоў, калі не стала цэнзуры і памяняўся грамадска-палітычны лад у Польшчы, «Прысутнасць» надалей з'яўлялася аж да 1992 года. І ўжо адкрыта ў нашым штомесячніку апісваліся «сакавіцкія гадавіны».

У «Прысутнасці» ад 14 красавіка 1991 года маем яшчэ заклік — збору фінансавых сродкаў на «Басовішча» і падзяка для тых суродзічаў са Злучаных Штатаў, якія на «Басовішча» ўплацілі ўзносы.

Ці была розніца паміж «Прысутнасцю» і «Сустрэчамі», хаця рэдагавалі іх амаль тыя ж самыя людзі?

На мой пагляд, як рэдактара абодвух часопісаў, асноўная розніца была ў змесце. У «Сустрэчах» было больш аналітычных артыкулаў — пра гісторыю, пра мастацтва, пра беларускі студэнцкі рух у даваеннай Польшчы.

А ў «Прысутнасці» больш месца адводзілася штодзённаму студэнцкаму жыццю, таму, што рабілі тадышнія студэнты, чым жылі, як развіваліся кантакты з аднагодкамі ў Беларусі і на чужыне. Але і там, і там гутарка ішла пра нашую свядомасць, нашую нацыянальную тоеснасць, вяліся пошукі адказу на пытанне што значыць быць беларусам. Ці гэта ўдалося? Час паказаў, што так.

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**Беларускае Радыё Рацыя**

## Звышчасовы «Мясцовы час»




Можна сказаць, што гэтая кніжка сама для мяне адкрылася.

Тыя бясколерныя словы, які службова гучаць па нашых СМІ ў адрас беларускіх кніжак, зусім не падзейнічалі на матывацыю. „Мясцовы час"* Алеся Аркуша ляжаў сабе спакойна на пісьмовым стале і чакаў свайго часу. Гэты час адкрыўся ў гадзіны трансавай чытанкі фенаменальных „Кніг Якубовых"(поўны загаловак: *KSIĘGI JAKUBOWE ALBO WIELKA PODRÓŻ PRZEZ SIEDEM GRANIC, PIĘĆ JĘZYKÓW I TRZY DUŻE RELIGIE, NIE LICZĄC TYCH MAŁYCH. OPOWIADANA PRZEZ ZMARŁYCH, A PRZEZ AUTORKĘ DOPEŁNIONA METODĄ KONIEKTURY, Z WIELU ROZMAITYCH KSIĄG ZACZERPNIĘTA, A TAKŻE WYPOSAŻONA IMAGINACJĄ, KTÓRA TO JEST NAJWIĘKSZYM NATURALNYM DAREM CZŁOWIEKA*).Апрача барочнага загалоўка, навейшы раман Вольгі Такарчук, бо пра яго тут мова, расцягнуты ажно на 910 старонках. Адолеўшы недзе трэцюю частку польскага шэдэўра, я патрабавала пачытаць штось па-беларуску, штось спакойнага, звычайнага. Рука сягнула якраз па „Мясцовы час", які пад кажушком пылу адлежваўся на стале. Кніжка захапіла з першай старонкі, нягледзячы на спадзяванні, не дазволіла ступіць „на зямлю". Наадварот, яна здавалася цудоўным адгалінаваннем „Якубовых кніг", гэта дзякуючы канкрэтнаму аналагу — прысутнасці пісем у творах. Традыцыя ліставання натуральная для герояў Такарчук — там дзеянне адбываецца ў другой палове XVIII-га стагоддзя. У Аркуша, які засяроджваецца на канцы 80-х і пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя гэты жанр яшчэ трымаецца прыстойна, аднак чытач ведае, што здарыцца праз дзесяцьдвадцаць гадоў, наколькі абмежавана і мізэрна будзе выглядаць электроны варыянт сяброўскага пісьма. У «Мясцовым часе» лісты — своеасаблівы магніт. Аўтар друкуе допісы сапраўдных літаратараў: Юрыя Гуменюка, Славаміра Адамовіча, Ігара Сідарука. Як не цікава, у Такарчук і ў Аркуша карэспандэнцыя кранае тэму літаратурных спрэчак, памкненняў, густаў. Прытым Аркуш запрашае нас у старажытны Полацк, дзе выспявае ідэя незалежнага літарaратурнага аб'яднання: Таварыства вольных літаратараў (ТВЛ). На старонках кнігі лунае дух эпохі, адчуваецца энергетыка часоў перабудовы. Сам загаловак рамана — гэта назва полацкага рок-гурта, пра якога ў сяброўскім кругу з шальмоўскай усмешкай прызываюць «заёбістым часам»! У кнізе шмат эмоцый, звязаных з замежнымі падарожжамі, то-бок на Беласточчыну, на «Басовішча».

Вось падарожжа полацкіх музыкантаў на наш рок-фестываль свабодных беларусаў фінансуе камсамольская арганізацыя (!). Карацей, супрацоўніцтва паміж «заходнікамі» і «ўсходнікамі» цвіце ў кнізе па поўнай праграме. Гэта дзякуючы згаданым ужо лістам Юрыя Гуменюка, які асвятляе літаратурны і мастацкі фермент Гарадзеншчыны. Вось характэрны ўзор яго пісьма:

«*Прывітанне дружа!*

*Шчыра дзякую за грунтоўны ліст. Увогуле, твае лісты, дарагі Алесь, хай сабе й крыху сухаватыя, чыста інфармацыйныя, але заўсёды радуюць і не даюць канчаткова «ўпасці духам». Бо сацыяльна-грамадска-палітычная сытуацыя на Беларусі, як заўсёды, хрэновая. Гэта прыгнятае й перашкаджае працаваць творча. І вось ратуе ліставанне, шчырае сяброўства праз сотні кілямэтраў.*

*Ты вось пішаш пра эклектычнасьць. Маўляў — калі ад яе адмовіцца — трэба разганяць ТВЛ. Ні ў якім разе ня трэба разганяць і адмаўляцца ад эклектычнасьці. Магчыма, ты мяне крыху ня так зразумеў. Эклектыка можа быць таксама стылем! Ня буду прыводзіць хрэстаматыйнага прыкладу архітэктуры і г.д. Дык вось эклектыка — гэта выразная рыса постмадэрнізму. Аб гэтым красамоўна гаворыцца ў маім эсэ «Твар Тутанхамона». І я зусім не асуджаю І. Сідарука. Ён па-свойму арыгінальны аўтар. Вядома, анікога прымушаць і ўгаворваць — як і што пісаць — мы (ТВЛ) ня будзем. Прайшлі тыя часы. Хай гэтым займаецца СП і «Пустацьвет...»*.

У тых жа лістах Гуменюка процьма смакавітых «тайнаў» з жыцця багемы ды не толькі... У канцы прыведзенага фрагмента ліста, ён прыводзіць спісак смакавітых сенсацый, закрашаных інтэлігентнай іроніяй. Гэта ўсё з перспектывы часу і трагічных здарэнняў, якія адбыліся з паэтам, чытаецца з сімпатыяй, а кніжка Аркуша каларытна папаўняе легенду трагічна загінулага паэта.

Аўтар «Мясцовага часу», герой якога папракае яго ў «сухасці», адкрыты на метафізыку і закручаны ў ёй на свой спосаб. Ён усур'ёз прыводзіць словы гадалкі Сафіі, якая яшчэ далёка да 19 студзеня 2013 года прарочыць трагічны канец маладога паэта. Гадалка ўручае Аркушу ахоўны талісман, які дапаможа ацалець. Апошні намёк проста дамагаецца далейшага літаратурнага працягу...

Кнігу Алеся Аркуша я прачытала ў захапленні, на адным дыханні, да таго ў вілею гадавіны трагічнай смерці Юры Гуменюка. Спачатку гэтае адкрыццё ашаламіла. Але душу перапоўніла ўдзячнасць для Аркуша і Такарчук за добрыя кніжкі.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

* Алесь Аркуш, *Мясцовы час*, выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда» 2014.

# Змагаром застаўся

2 лютага 1838 года нарадзіўся Кастусь Каліноўскі. Рэвалюцыянер-дэмакрат, мысліцель і публіцыст, стаяў на чале паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве. Кастусь Каліноўскі змагаўся за сацыяльныя і нацыянальныя правы беларусаў. Быў выдаўцом першай беларускай газеты „Мужыцкая праўда". У 177 гадавіну з дня нараджэння героя, беларуская моладзь успамінала асобу і ўчынкі Каліноўскага на яго бацькаўшчыне ў Мастаўлянах.



Ідэя наведвання роднай вёсачкі рэвалюцыянера ў гадавіну з дня яго нараджэння належыць лідару Беларускай нацыянальнай памяці Анатолю Міхнаўцу і беларускаму дзеячу Аляксею Трубкіну. Цягам апошніх гадоў яны арганізавалі рэйды ў месца нараджэння Кастуся Каліноўскага. Сёлета Анатоль Міхнавец выказаў спадзяванне, што неўзабаве ў Мастаўлянах з'явіцца месца, прысвечанае памяці героя.

— У нас былі спробы дагавораў з гаспадарамі, каб знайшлося месца для помніка ці памятнай дошкі. Будзем працягваць намаганні і спадзяёмся, што ў наступным годзе, такі з'явіцца.

**Мастаўляны**

Нічога, што заехаўшы ў Мастаўляны, вёсачку, якая канчаецца на рацэ Свіслачы, цяжка знайсці нейкія доказы на тое, што вось тут нарадзіўся адзін з выдатнейшых нацыянальных герояў Беларусі. Дзе матушка мясцовага прыхода заявіла, што ніводнай дошкі ці помніка ў памяць паўстанца тут напэўна не будзе, і адправіла нас, параіўшы глыбей спазнаць гісторыю і шосты нумар „Мужыцкай праўды".

Нічога, што каб дайсці да месца, дзе знаходзіўся маёнтак Каліноўскага, трэба ўвайсці на чыйсьці панадворак і, стукаючы ў дзверы, чакаць гаспадыню, якая дазволіць увайсці на яе ўласнасць. Прычым, бачыць яе здзіўленне, што гэты Каліноўскі нарадзіўся вось за яе бацькаўскай хатай, а не „дзесьці за ракой", як заўсёды чула. Стоячы на месцы, чалавеку нават не перашкаджала парадаксальная сімультанічнасць акцыі, дзе мы, трымаючы сцягі, з палымянымі словамі на вуснах стаялі ўзгадваючы Каліноўскага ў час, калі ў хаце елі нядзельную таўканіцу.

У канцы нічога, што пабыўшы ў Мастаўлянах няпоўныя 2 гадзіны, можна было чарговы раз пераасэнсаваць усе крайнія пастаты ў адносінах да змагара.

**Мяняецца Каліноўскі, мяняемся мы**

Варта адзначыць, што Кастусь Каліноўскі прысвяціў цэлае сваё жыццё беларускай справе. Нягледзячы на гэта, быў забыты на дзесяцігоддзі, каб цікавасць да постаці змагара абудзілася толькі ў 20-я гады XX стагоддзя ў кароткі перыяд станаўлення беларускай нацыянальнай ідэі. Грамадства тады патрабавала сваіх герояў, патрабавала ўласнага міфу, які нагадваў бы пра мужнасць беларусаў у барацьбе за сваю радзіму. Дазвалялася гаварыць пра Кастуся Каліноўскага галоўным чынам як пра нястомнага змагара за вырашэнне сацыяльна-бытавых праблем, і ў ніякім разе нацыянальных.

Але ўжо ў 30-я гады XX стагоддзя ў Савецкай Беларусі скончылася беларусізацыя і постаць Каліноўскага зноў апынулася ў забыцці. Літаратары, якія выкарыстоўвалі вобраз героя ў сваіх творах, былі абвінавачаны ў нацыяналізме. Яшчэ ў тыя ж часы працягваліся гістарычныя даследаванні, у якіх разглядалася постаць рэвалюцыянера. З часам, пасля знішчэння беларускага руху ў БССР, адзіным цэнтрам, які не здрадзіў герою, заставалася Вільня.

Імя Кастуся Каліноўскага, як нязломнага, мужнага чалавека, загучала з новай сілай у гады Другой сусветнай вайны. Патрыятычнасць, самаахвярнасць змагара за светлую долю народа надзвычай актуалізаваліся падчас змагання з захопнікамі. З часам Кастусь Каліноўскі пачаў успрымацца як змагар не толькі за долю народа, але таксама за беларускую нацыянальную свядомасць.

**Яновічаўская эпоха**

Вобраз Студзеньскага паўстання і Кастуся Каліноўскага выразна вызначаецца характарам сацыяльна-гістарычнай эпохі. Думаю, новую эпоху разумення гэтых падзей і постаці Каліноўскага вызначае аповесць Сакрата Яновіча „Сярэбраны яздок". Тут правадыр паўстання ў аповесці Яновіча не з'яўляецца галоўным героем, аднак менавіта яго прысутнасць вызначае ўсе ўзроўні твора. Чытач разумее, што пісьменнік звяртаецца да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, каб сцвердзіць, што Кастусь Каліноўскі працягвае слаўныя традыцыі калісьці магутнай дзяржавы. Тым самым Яновіч, які сам па натуры з'яўляўся песімістам, пакідае чытачу надзею на іх адраджэнне ў прышласці. Адначасова Яновіч сігналізуе, што не варта весці дыскусіі наконт слушнасці памкнення ў 1863 годзе, ці задумвацца над правільнасцю называння Каліноўскага нацыянальным героем.

Яновіч схіляе да правільнай сучаснікам высновы, што вартасць барацьбы вызначаецца не шанцамі на перамогу справы, а самім яе працэсам, які дзейнічаў цягам стагоддзяў і будзе працаваць надалей.

Уршуля ШУБЗДА




Ёсць у беларускай літаратуры імёны, якія натхняюць да творчасці іншых асоб. Адно з такіх — пісьменнік Міхась Стральцоў. Ён нарадзіўся ў вёсцы на Магілёўшчыне ў 1937 годзе, а потым усё сваё жыццё пражыў у горадзе. Таму яму добра былі знаёмы думкі і пачуцці, з якімі сутыкаюцца ўчарашнія вяскоўцы, стаўшыя гараджанамі. Гэтае пераўтварэнне выдатна раскрыта ў яго творы „Сена на асфальце". Праз 46 гадоў гэтая крыху зменeная назва была дадзена міжнароднаму паэтычнаму фестывалю, прысвечанаму памяці Міхася Стральцова — „Вершы на асфальце".

Сёлетні фестываль, які праходзіць у лютым, адбываецца ўжо ў чацвёрты раз. Пра некаторыя яго падрабязнасці мы можам даведацца, калі зазірнем на сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://stralcou-fest.by**.

„Штогадовы Міжнародны паэтычны фестываль імя Міхася Стральцова „Вершы на асфальце" запачаткаваны ў 2012 годзе Грамадскім аб'яднаннем „Саюз беларускіх пісьменнікаў" і Беларускім ПЭН-цэнтрам. У розныя гады ўдзельнікамі фестывалю былі паэты з Беларусі, Германіі, Ісландыі, Казахстана, Літвы, Латвіі, Нарвегіі, Польшчы, Расіі, Славакіі, Украіны, Швецыі, Фінляндыі, Эстоніі. Сярод традыцыйных мерапрыемстваў фестывалю — літаратурныя чытанні, дыскусіі, прэзентацыя кніг, кніжных серый, музычныя выступы і г.д.", — распавядаецца на сайце. Там жа адзначаецца, што сёлета сярод яго партнёраў — Шведскі саюз пісьменнікаў, пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, пасольства Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, грамадская культурніцкая кампанія „Будзьма беларусамі!", Інстытут імя Гётэ ў Мінску.

Згодна праграмы фестывалю, ён запланаваны ад 12 да 15 лютага ў Мінску. На ім, у прыватнасці, прадстаўлены кнігі беларускіх і ўкраінскіх аўтараў, прэзентаваны дэбютныя кнігі паэзіі, праходзіць паэтычны марафон, а таксама так званы паэтычны слэм. Пра яго як літаратурны перформанс варта сказаць асобна, бо гэта адна з найцікавейшых выназнадак сучаснай паэзіі, якая ўвасоблена ў спалучэнні паэтычнага слова і акцёрскага майстэрства, якія, перацякаючы адно ў другое, зацягваюць публіку ў дзеянне. Своеасаблівасць слэму ў тым, што паэт становіцца акцёрам, які прэзентуе сваю творчасць у той манеры, якая найбольш дакладна адлюстроўвае сутнасць верша. Як адзначецца на сайце, на фестывалі імя Стральцова паэты-акцёры будуць ацэненыя гледачамі за змест і артыстызм.

Праўда, на сайце не абышлося без недахопаў. Так, яго стваральнікі запрашаюць без акрэслення дат да падачы заяўкі на ўдзел у слэме, што немагчыма было зрабіць ужо ад 2 лютага.

Яшчэ адной хібай сайта з'яўляецца адсутнасць інфармацыі пра Міхася Стральцова, нягледзячы на тое, што фестываль носіць яго імя. Там не прыгадваецца ніводнага яго верша ці іншага літаратурнага твора. Няма і згадкі пра тое, што перакладаў ён на беларускую мову асобныя творы расейскіх, украінскіх, італьянскіх, лацінаамерыканскіх паэтаў. Таксама з сайта стральцоўскага фестывалю мы не даведаемся, што паэт Уладзімір Някляеў і магілёўскія абласныя ўлады заснавалі літаратурныя прэміі імя Міхася Стральцова — што сталася адзіным выпадкам у Беларусі, калі ў гонар аднаго і таго ж пісьменніка былі заснаваны дзве прэміі.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ




Беларускі настаўнік і дзеяч эміграцыі

## 125 гадоў з дня нараджэння Філарэта Родзькі

Беларускі грамадскі і вайсковы дзеяч Філарэт Родзька нарадзіўся 9 лютага 1890 г. у мясцовасці Вераскава (сёння вёска Любчанскага пасялковага савета) Навагрудскага павета. Да слова, у гэтай вёсцы пазней нарадзіўся Уладзімір Конан, вядомы беларускі філосаф. А раней у Вераскаве быў маёнтак, які належаў Тамашу Дыбоўскаму, а потым роду Брахоцкіх, вядомых удзельнікаў вызвольных паўстанняў.

Пачатковую адукацыю Філарэт Родзька атрымаў у Навагрудку, пазней вучыўся ў Нясвіжы. З 1909 г. працаваў настаўнікам на Мазыршчыне. У час Першай сусветнай вайны трапіў на фронт, там быў кантужаны і атручаны газамі. Родзька скончыў афіцэрскую школу і завяршыў вайну капітанам расейскага царскага войска. У 1918 г. зноў вярнуўся на Мазыршчыну, працаваў настаўнікам у Леніне. Праз год ажаніўся з настаўніцай Верай Гулевіч, якая жыла ў суседняй вёсцы Грычанавічы. Потым сям'я непрацяглы час жыла ў вёсцы Чучэвічы на Лунінеччыне. Менавіта там нарадзіўся сын Усевалад Родзька, які пазней стаў вядомым беларускім грамадска-палітычным дзеячам, вайсковым змагаром.

Найверагодней праз Лунінеччыну Філарэт Родзька вярнуўся ў роднае Вераскава на Навагрудчыну. Гэта наводзіць гісторыкаў на думку, што такі шлях быў абумоўлены тым, што ён адступаў з-пад Мазыра разам з вайсковымі атрадамі генерала Станіслава Булак-Балаховіча.

У Вераскаве пасля прыходу бальшавікоў Філарэт Родзька стаў дырэктарам мясцовай школы. Перад гэтым ён скончыў курсы польскай мовы ў Кракаве. У школе Родзька акрамя дырэктарства выкладаў беларускую мову, арганізаваў драматычны гурток і школьны хор. У Другую сусветную вайну ў час нямецкай акупацыі Філарэт Родзька працаваў у Навагрудку выкладчыкам настаўніцкай семінарыі і дырэктарам беларускай гімназіі. Пасля прыходу на беларускія землі савецкіх войскаў у 1944 г., з-за пагрозы абвінавачвання ў калабаранцтве і са страху перад сталінскімі рэпрэсіямі, быў змушаны з'ехаць у Нямеччыну. Адтуль Родзька, як і многія іншыя беларускія эмігранты, пазней разам з сям'ёй выехаў у Амерыку, дзе пражыў астатняе жыццё. Пераезду за акіян у ЗША спрыяў Барыс Кіт. Выехаўшыя беларусы заснавалі вялікі асяродак у горадзе Саўт-Рывер. Родзька спярша таксама пасяліўся ў Саўт-Рыверы, але потым перабраўся ў горад Сомерсет, дзе гуртаваў прыхільнікаў БНР. Быў актыўным сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання, старшынёй аддзела гэтай арганізацыі ў штаце Нью-Джэрсі.

Філарэт Родзька быў зацятым прыхільнікам Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Вядомы факт, калі ён у 1946 г. разам са сваім земляком, выдатным беларускім патрыётам Аляксандрам Орсам угаворвалі і малілі епіскапаў Філафея і Апанаса не падпісваць акт пра далучэнне БАПЦ да Рускай праваслаўнай царквы ў замежжы. Аднак, тыя не паслухаліся іх і падпісалі мюнхенскае пагадненне. Родзька быў адным з фундатараў набыцця кафедральнага сабора св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Йорку.

Філарэт Родзька памёр 5 сакавіка 1977 г. у ЗША. Лёс яго сына склаўся больш трагічна. Усевалад Родзька, адзін з кіраўнікоў Беларускай Краёвай Абароны прыблізна ў 1946 г. па адной з версій быў павешаны ў Беластоку, па іншай — закатаваны ў засценках МГБ у Мінску.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Вечар паэзіі ў Масеве

30 студзеня г.г. беларускія паэты, якія жывуць у вёсках Нараўчанскай гміны, ахвотна паехалі ў Старое Масева гэтай жа гміны. Ім было цікава сустрэцца з жыхарамі ціхай пушчанскай вёскі, у якой цяпер пражывае ўсяго 66 чалавек. Масева — невялікае сяло ля дзяржаўнай польска-беларускай мяжы. Яно аддаленае ад Нараўкі і Гайнаўкі (ад горада — 30 кіламетраў). У ім рэдка калі ладзяць культурныя мерапрыемствы, апрача штогадовага беларускага народнага фэсту.


Фота Янкі Целушэцкага


Косця Целушэцкі, Алік Радзіванюк і Вера Радзіванюк


Тадэвуш Кунцэвіч і Мікалай Варанецкі

У пятнічны студзеньскі вечар у святліцу ў Масеве завіталі Вера Радзіванюк і Аляксандр Радзіванюк з Міхнаўкі, Тадэвуш Кунцэвіч з Лешукоў, Янка Целушэцкі і Канстанцін Целушэцкі з Новага Ляўкова, Мікалай Варанецкі з Альхоўкі і Аля Ясвіловіч з Семяноўкі. У Масева прыехалі яны са сваімі паэтычнымі творамі ўпершыню.

Жыхары Масева чакалі паэтаў. Прыйшлі солтыс Аліна Філіновіч і радны Нараўчанскай гміны Павел Каліноўскі. У зале ішло цяпло ад камінка і панавала прыемная атмасфера. Удзельнікі вечарыны ўважліва ўслухоўваліся ў словы вершаў. Усе творы ім спадабаліся і яны ўспрымалі іх апладысментамі. Апошнім часам — ужо пасля аўтарскай сустрэчы ў Ахрымах у канцы мінулага года — шмат новых цікавых вершаў напісалі Кастусь Целушэцкі і Аляксандр Радзіванюк. Заўсёды развесяляе публіку сваімі гумарыстычнымі вершамі Тадэвуш Кунцэвіч. Падабаліся слухачам лірычныя вершы найстарэйшай паэтэсы Веры Радзіванюк.

Свае вершы на польскай мове ўпершыню прачытала Анна Стульгіс з Нараўкі (яна зараз загадвае нараўчанскай бібліятэкай). Яна родам з суседняга з Масевам Замоша і свае творы прысвяціла якраз знаёмым з дзяцінства людзям і мясцінам у гэтай ваколіцы. Спадарыня Анна дагэтуль ніколі не ездзіла на аўтарскія сустрэчы.

Вечарыну прыгожа вяла дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рээнт. Яна расказала пра мясцовых паэтаў, пра дасюлешнія аўтарскія сустрэчы ў вясковых святліцах і пра планы на будучыню. Яшчэ ў зімова-вясенні перыяд сустрэчы з паэтамі прадбачваюцца ў Заблотчыне і ў Тарнаполі.

**(Я.Ц.)**

Галіна БЫРЫЦКАЯ

## Валянцінкі

Эх, браце, хопіць працаваць!
Давай ключы да скрынкі!
Што ж ты — забыў?
Сёння валянцінкі.
У хаце Валюсь жонцы налгаў,
Гладка гэта яму ўдалося,
Што на важную нараду шэф пазваў,
Без яго там не адбылося б!
Налажыў белую кашулю ды касцюм,
Пазашпіляў на рукавах спінкі,
Выйшаў з хаты, сеў у малы фіат
І паехаў з сябрам шукаць Валянцінкі.
Па кватэрах аргатурыстычных праехаліcь
(у нашай гміне ёсць іх многа),
Паглядзелі і пагаварылі,
Што на гэты дзень для іх няма нічога.
Паехалі шукаць „маліны”.
Было шампанскае, гарэлка і жанчыны.
Без ніякай кпінкі —
Тут і справілі валянцінкі.
Сядзелі аж да ранку.
Не помняць, як пабілі талеркі шклянкай.
Не знаюць — хіба добра напіліся! —
Як у руках паліцэйскіх знайшліся!
У выцвярэзнік іх пасадзілі,
Прытым моцна іх пабілі,
Запісалі не адну паперу,
Праз дзень пусцілі дахаты на вячэру.
Калі Валюсь дадому вярнуўся,
Жонка крычыць, галасна лае,
Чаму мужа такога лёс даў! —
З слязьмі ў вачах праклінае.
У жонкі прабачэння прасіць трэба:
На калені перад ёю ўпаў,
Схапіў за абедзьве рукі,
У кожны палец цалаваў.
Ох, пачаць ад нова трэба жыць!
Выцвярэзнік і мандаты аплаціць!..
Валюсь, бярыся за работу,
Вымай ключы са скрынкі
І забудзь пра валянцінкі!

# 15.02 — 21.02

**(22.03. — 20.04.)** Да 20.02. будзеш баявіты, з поспехам паваюеш за сваё. Зварухнеш застылыя справы. 18-22.02. дакладна перачытвай усе дамовы; час не спрыяе абмяркоўванню сур’ёзнага. Праблемы ў пары мінуць пасля 20.02. 20.02. адкрыюцца перад табою новыя магчымасці. 17-21.02. засноўвай суполкі. Дбай аб уласныя прыемнасці. Абнаві гардэроб, схадзі да цырульніка, стаматолага.

**(21.04. — 21.05.)** Кантралюй сваю злосць. Нават па найгоршай буры прыходзіць сонца! Сарганізуй прыём дома. Госці будуць фантастычныя! Добрыя адносіны і з суседзямі. Дзеці, аднак, будуць непаслухмяныя і марудныя, не спускай іх з вачэй. З 20.02. пастарайся добра рэгенераваць арганізм, з’ездзі ў нейкае ўтульнае, ціхае месца. З 20.02. (да 24.02.) пачнеш рассейваць на ўсіх асаблівы чар, добры час і на фінансавыя прыёмы.

**(22.05. — 22.06.)** Рамантызм, тонкасць пачуццяў і жарснасць! Можаш знайсці кагосьці, хто на доўгі час запалоніць тваё сэрца (звярні ўвагу на нясмелую асобу). Дома згода і аднадумства. Магчымыя праблемы з пазваночнікам, каленамі і нервамі. Нечакана можаш лішне пахудзець і абязводзіць арганізм. Чэрвеньскія Блізняты атрымаюць ад Сонца сілу і жыццярадаснасць.

**(23.06. — 23.07.)** Ідэальны час для сардэчных спраў. Дагаворышся з людзьмі, пераканаеш іх да сваіх задум, наладзіш цікавае знаёмства. Але будзеш схільны да спынення сямейнай традыцыі, змены жыццёвай дарогі. Рабі сваё! Рак народжаны ў ліпені можа ў кімсьці моцна расчаравацца. Шыкуюцца нейкія непрадбачаныя выдаткі, старайся не выдаваць грошай на распусту. І не пазычай!

**(24.07. — 23.08.)** У тваім жыцці можа паявіцца асоба, якая ахвотна цябе здамінуе; варта паслухаць такога ініцыятыўнага чалавека. 13-17.02. наведвай крамы са здаровым харчом, можаш змяніць дыету. Маладзік Месяца (18.02.) папсуе табе раптам настрой, навядзе галаўныя болі і праблемы з дыханнем — схадзі да лекара (бо можа гэта цягнуцца аж да лета). Ад 20.02. разлічвай на выдатны настрой, які заахвоціць цябе да забавы і кампанейскіх сустрэч.

**(24.08. — 23.09.)** Старайся праводзіць час у пары, актыўна. Будзеш вельмі рамантычны. Не адкладвай сур’ёзных размоў. Не будзь лішне апякунскім з дзецьмі, не кантралюй кожнага іх руху. Не ўцякай ад магчымых праблем... у сон (19.02.). Але добры момант пачаць дыету, ачышчэнне арганізму. 18-21.02. можаш быць уцягнуты ў вір прыкрых выпадкаў. 20.02. прачнецца ў табе рызыканцтва — не пераборшчвай, бо можаш шмат страціць.

**(24.09. — 23.10.)** Не еж усяго, што трапіць табе пад руку, каб не атруціцца. Таксама не глытай лякарстваў без рэцэпта. Будзеш мацнейшы псіхічна і фізічна. Толькі што хутка можаш патаўсцець, бо пацягне цябе да ласункаў. Не катуй сябе дыетамі, а фундані сабе дозу руху. Зважай на прадаўцоў, каб не ўціснулі табе штосьці дарагое і непатрэбнае.

**(24.10. — 22.11.)** 15-17.02. раскруціш інтарэс або захопіш кагосьці; усё ўдасца. Задбаеш аб свае інтарэсы, пазітыўныя змены ў сям’і. Не сядзі ў куце, міла правядзеш час. Пад канец тыдня прыліў вітальных сіл і энергіі. На працы не рассакрэчвай сваіх задум. Дзякуючы гаспадарлівасці будзеш мець выдатныя эфекты.

**(23.11. — 22.12.)** Можа паявіцца хтосьці, ад каго мацней табе заб’ецца сэрца. Але не дай сабе ўзлезці на галаву. У пары спакой. Не слухай парад, якія табе „не ляжаць”. Дома тваё будзе наверсе. На працы пільна выконвай свае абавязкі, нават калі прыйдзецца пасядзець пасля работы. 17-19.02. не падпісвай ніякіх дамоў. Вельмі пільнуйся на вуліцы, за рулём, асабліва пасля 20.02.

**(23.12. — 20.01.)** З пачатку тыдня лепш пазбягай падарожжаў і афармлення важнага. Час не спрыяе негацыяцыям. 17-21.02. знакаміты час на вучобу, здабыванне ведаў, вырашэнне важнага. З 20.02. хатнія справы пойдуць хутка. На працы шанцы на змену пасады ці абсягу работы.

**(21.01. — 19.02.)** 17-19.02. адчуеш сябе ў сваёй стыхіі. Прыбудзе абавязкаў, але пазбегнеш прыкрых сюрпрызаў. Добры момант на закулісныя дзеянні і элімінацыю sапернікаў! Сямейныя спрэчкі афармляй бягуча. Еж крупы і вараную гародніну, не ласуйся салодкім і малочным.

**(20.02. — 21.03.)** У пачуццях будзеш шукаць нетыповых адчуванняў; не адгані ад сябе кагосьці вартаснага. Але не шукай кахання сілай. Адкрывайся на новае знаёмства. 17-21.02. удадуцца службовыя справы датычныя сям’і. Да 20.02. будзеш крыху нямоглы, дык не перанатужвайся. І на пакупкі выберыся пасля 20.02., купіш штосьці ўдала і будзеш вельмі рады!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. Іван, класік балгарскай літаратуры (1850-1921) = 4 _ 5 _ 25 _ 20 _ 32 _;
2. моцны страх = 12 _ 13 _ 18 _;
3. цар саванны = 6 _ 2 _ 14 _;
4. харчовы тлушч, які атрымліваецца пры збіванні смятаны ў бойцы = 26 _ 27 _ 8 _ 28 _ 29 _;
5. гістарычны горад у нізоўях Аму-Дарыі = 3 _ 7 _ 19 _ 17 _;
6. адсутнасць гоману = 30 _ 31 _ 33 _ 34 _ 10 _ 9 _;
7. гумавы або металічны абруч на вобадзе кола = 15 _ 16 _ 1 _ 11 _;
8. выхаваўчая ўстанова для найменшых дзяцей = 24 _ 23 _ 21 _ 22 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | | | | | | | |
| | | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 4 нумара**

Табу, няхватка, забой, грэбля, чахол, Кім, Кааба, біч, Табідзе, Атабаска, калгаснік.

Рашэнне: **Няхай будзе з грэчкі мак, калі баба хоча так**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Саннікі



Стары каштан

Ідучы вуліцай Саннік, пабачыў я на канцы вёскі пажылую жанчыну, якая некага выглядала з боку Крушынян. Калі я наблізіўся да яе, яна адступіла за брамку свайго панадворка. А я пацікавіўся, каго яна выглядае.

— Бацюшка мае па калядзе хадзіць, вось і выглядаю, — адказала.

А ў той жа дзень меў быць бацюшка і ў Рудаках. Я здзівіўся, што крушынянскі святар наведвае дзве вёскі ў той самы дзень. Але аказалася, што Саннікі не ў Крушынянскім прыходзе, толькі ў Крынскім, хаця ў Крынкі з Саннік трэба дабірацца праз Крушыняны. Але так завялося. Паколькі з жанчынай згаварыўся я пра агульных знаёмых з Паўднёвага Вострава, адкуль яна родам, а яна пашкадавала, што з прычыны калядавання не можа запрасіць мяне на гарбату, тады рашыў я наведаць яе ў недалёкай будучыні. І вось пару дзён пазней заходжу я ў хату, дзе пажылы гаспадар глядзеў тэлевізар, а гаспадыня ўвіхалася каля кухні. Згадзіліся яны гаварыць са мною, але толькі з умовай, што яны астануцца інкогніта. Бо ж у іх была калісь адна журналістка, Барбара Цірук, якой муж з Крынак, і яны вельмі хваляваліся пасля ейнага выезду, што можа што не так выйдзе. Спачатку дапытваюся, колькі душ жыло ў вёсцы зараз пасля вайны.

— З Саннік у Савецкі Саюз выехала дзесяць сем'яў, — засцерагаецца гаспадар.

— *Але ўсё-ткі: колькі душ тут жыло зараз пасля вайны?*

— О, было шмат.

— *А больш канкрэтна: дзвесце, трыста?..*

— О, не. Было ў хаце па тры, чатыры, а нават і па пяць чалавек было.

— *А хат колькі было?*

— О, яшчэ пакуль не паехалі ў Расею, то было, каб не памыліцца...

— *Пяцьдзясят было?*

— Не, не было; было можа якіх сорак пара.

— *Тады, калі палічыць у кожнай хаце па пяць душ, то з дзвесце чалавек тады было. А ці дзяцей было многа?*

— Ну, у некаторых было многа. Па пяцёра, а ў аднаго было дванаццаць.

— Не, не было дванаццаць, — пярэчыць гаспадыня.

— Што ты гаворыш!

— Можа сем, — упіраецца яна.

— *Чакайце: калі Вы гаворыце, што прыйшлі сюды замуж у 1962 годзе, то адкуль можаце ведаць як тут было пасля вайны?*

— Я знаю дзе яны падзеліся. Не было дванаццаці, у Нетупе дванаццаць было...

— *А куды тыя дзеці хадзілі ў школу; можа тут вучыліся?*

— Была школа крыху ў Санніках у вёсцы...

— *У хаце?..*

— Не, не ў хаце, школа ў нас была, яшчэ з санацыі. І як саветы прыйшлі, то тут яшчэ вучылі.

— *А то быў асобны будынак?*

— Асобны, драўляны. У тым канцы, ад Крушынян.

— *Там падмурак які ёсць?*

— Так-так. Велька школа была.

— *А колькі класаў: сем?*

— Чатыры.

— *А далей вучыцца то куды дзяцей пасылалі?*

— Да вайны дзеці хадзілі ў Галынку. А пасля вайны ў Крушыняны.

— *А ці ведаеце, калі тую школу ў Санніках былі паставілі? Кажаце, што пры санацыі яна была, а можа за цара яе паставілі?*

— Так-так, яшчэ за цара, бо пры санацыі не ставілі. Толькі не ведаю, у якім годзе.

— *Можа помніце, колькі настаўнікаў было тут пры санацыі?*

— Адна вучыцелька была.

— *Здалёк?*

— Не маю паняцця.

— *Можа помніце, да каторага року працавала ваша школа?*

— Як прыйшлі саветы, то ўжо тут вучылі па-руску.

— *А як немец быў, то тут таксама вучылі?*

— Не.

— *А пасля вайны тут вучылі, напрыклад пры Гамулцы?*




— Ужо ў Нетупе школа была, — адказвае гаспадыня.

— Ужо тут школы не было, — інфармуе гаспадар. — Мела быць тут, панімаеш. У Шацілах і ў Нетупе наймалі хаты. Але такая справа была: вучыцель быў ад нас, з Саннік. Але перапаілі яго, панімаеш, і там асталася школа.

— *А што сталася са школай у вашай вёсцы?*

— Прадалі яе, гміна прадала.

— *А там, у Нетупе, то якісь новы будынак былі пад школу паставілі?*

— Няма. Там у прыватных хатах вучылі. Маглі і тутака рамонт зрабіць, але каб хто быў падумаў. То ж тут быў такі будынак; то наймалі там.

— *Там хіба больш дзяцей было?*

— З Нетупы, Шаціл, Юзэфова, Лішчаной.

— *А можа помніце, у каторым годзе перасталі вучыць у Санніках, а сталі ў Нетупе? Пасля немца яшчэ ў Санніках вучылі?*

— Не, ужо вучылі ў Нетупе.

— *А цяпер пра іншае: тут, у вас, на вуліцы ляжыць брук. Ці помніце, калі яго клалі?*

— Але не ўсюды яго паклалі, толькі да басейна і яшчэ крыху; а тут, з нашага канца няма бруку. І яго клалі ўжо пасля вайны, — кажа гаспадыня.

— Хтось меўся прыехаць, панімаеш, да Польскае, — тлумачыць гаспадар. — То тут сарвалі — не стала грошай, бо трэба было тамака рабіць. Папа меўся прыехаць.

— Ай, не гавары, яшчэ тады папа Ян не быў, я табе кажу. Па вайне ж яго не было.

— *Вы згадалі пра басейн: калі яго выкапалі?*

— Не магу згануць.

— А я была ўжо тут ці не? — падказвае гаспадыня.

— Не, цябе яшчэ не было.

— А я прыйшла ў шэсцьдзесят другім. То басейн ужо быў.

— *Яго адразу абгарадзілі, ці пасля?*

— Адразу. Капалі чынам, прывезлі гэтыя пліты і пазакладалі. І адразу абгарадзілі.

— *А куды вывозілі зямлю?*

— Нікуды, яе на месцы расплянтавалі. Тут была *страж*.

— *А што тая страж мела?*

— Мела помпу.

— *А дзе яе трымалі?*

— У гэтай школе.

— *А чым вазілі?*

— Канём; запрагалі каня і ехалі.

— *Часта выязджалі да пажару?*

— Не. Да Нетупы ездзілі стадолу гасіць.

— *І многа вас, пажарнікаў, было?*

— Можа з восем, а можа і больш.

— *Адкуль ваду бралі, напрыклад у Нетупе?*

— Там рэчка недалёка, раскручвалі шлангі і з рэчкі бралі.

— *А помпа ваша была матаровая?*

— Так, на бензін.

— *А больш да пажараў выязджалі? Можа лес гарэў...*

— Да лесу з помпай не ездзілі, але так хадзілі.

— *А ці лесу ў вас калісь многа было?*

— Ой, было! Хто яго ведае, колькі было гектараў.

— *А я так іду ад Крушынян, углядаюся, і мне здаецца, што тут лес малады, што тут поле было.*

— З таго боку быў стары лес, а тутака, з гэтага боку, то яшчэ поле было, гаралі.

— *А многа поля цяпер асталося?*

— Нямнога.

— *Яшчэ хто ў вашай вёсцы абрабляе поле?*

— Адзін. Але толькі агарод.

— *На адным панадворку, бачыў, трактар стаяў...*

— Чатыры трактары ў вёсцы яшчэ ёсць.

— *А каня хто трымае?*

— Няма, нават каровы ніводнай няма.

— *А зямля ў вашай вёсцы добрая была?*

— *Пёнтка, шустка, чворкі* трошку было, але мала — як ісці да Шаціл. Як *навозы* сеялі і гной давалі, то расло.

— *Цяпер поўна дзікоў ходзіць; ці калісь яны таксама хадзілі?*

— Былі, але не так заўважна. Людзі многа засявалі. То як дзік туды ўлезе, сюды, то і мала было знаць шкоду.

— Але менш іх было, бо было многа ваўкоў, — дадае гаспадыня. — Як яго маці рвала грыку, а брат яго там сядзеў, маленькі. А воўк прыйшоў да яго і нюхаў. Ён: „Вова, вова". Маці аглянулася, спалохалася насмерць, але якась нічога. Ваўкоў многа было і з'ядалі дзікоў. А цяпер павыбівалі іх, але крыху хіба ёсць. Пайшла сёлета адна ў лес, а там сем ці колькі ваўкоў пабачыла, то на дзерава палезла. Цяпер і дзікі размножыліся, і ласі.

— *А ў пачатку вашай вёскі такі вагончык стаіць і там напісана, што гэта халадзільнік для дзікоў; яго паляўнічыя паставілі.*

— Так, забіваюць — як быў гэты мор — дзікоў і прывозяць, а пасля адсылаюць. Там маразільнік ёсць.

— *А даўно той маразільнік у вас паставілі?*

— Не, не так даўно.

— *А я яшчэ вярнуся да тых, што пасля вайны выехалі з вашай вёскі. Кажаце — дзесяць сем'яў. І вашых намаўлялі?*

— Мае мама і тата не хацелі, — кажа гаспадар.

— А мой бацька хацеў, у Востраве, а мама не схацела.

— *А з Вострава многа выехала?*

— Не, не так многа.

— *А многа іх хадзіла намаўляць?*

— Двух. Жылі па-суседску. І як прыйдуць, то паўдня сядзяць і намаўляюць.

— *А можа паціхеньку яны адмаўлялі?*

— Э-э, не!

— *А ці вядомы вам лёс тых, што выехалі?*

— Некаторыя прыязджалі, але не наракалі, бо хто ж гэта скажа...

І размова пра мінулае дакацілася да канца. І гарбата была, і хлеб, і пірог, і паштэт сваёй работы — смаката. І гасціннасць, і шчырасць.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960